● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

24 жніўня 1996 г. субота, № 210 (23013)



# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### ПРАФСАЮЗЫ ЛІЧАЦЬ, ШТО ЗАРПЛАТА ПАВІННА БЫЦЬ ПАВЫШАНА З 1 ВЕРАСНЯ

**Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прапануе ўраду павысіць з 1 верасня памер мінімальнай платы да 150 тысяч рублёў.**

Гэта выклікана тым, што, паводле ацэнкі прафсаюзных экспертаў, узровень жыцця насельніцтва рэспублікі працягвае зніжацца. Аб чым сведчыць, напрыклад, той факт, што не спынена скарачэнне валавога ўнутранага прадукту. ФПБ непакоіць, што тарыфная стаўка першага разраду на сённяшні дзень складае толькі 10 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага ўзроўню. Працягвае расці і запазычанасць па выплаце заработнай платы, якая перавышае ўжо 978 мільярдаў рублёў.

Калі прапанова прафсаюзаў будзе прынята Кабінетам Міністраў, то тарыфная стаўка першага разраду павінна скласці 170 тысяч рублёў. У гэтым ФПБ бачыць магчымасць зніжэння сацыяльнай напружанасці ў грамадстве.

**БЕЛТА.**

### БУДМАТЭРЫЯЛЫ ПА-РАНЕЙШАМУ Ў ЦАНЕ

**Кошт будаўнічых матэрыялаў усё расце. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, за сем месяцаў сёлетняга года ў параўнанні з аналагічным перыядам 1995 цэны на іх падскочылі ў сярэднім у 1,2 раза.**

На столькі ж больш прыходзіцца плаціць цяпер за зборны жалезабетон і цэмент, сценавыя матэрыялы. На трэць падаражэла будаўнічая кераміка. А за дэталі з драўніны і пліт, вапнавыя матэрыялы неабходна ўжо выкладваць на сорак працэнтаў больш, чым летась. Праўда, на тэрыторыі рэспублікі адзін і той жа будматэрыял можна набыць па розных цэнах. Многае залежыць ад усялякіх «накрутак».

## ... УРАДЖАЙ-96

### ДА ПАДВЯДЗЕННЯ ВЫНІКАЎ СПАБОРНІЦТВА ЗАСТАЛОСЯ КАЛЯ ДВУХ ТЫДНЯЎ

**Ужо зараз, за два тыдні да аб'яўлення лепшых, можна з упэўненасцю сказаць, што ключы ад легкавога аўтамабіля атрымаюць камбайнер Васіль Паўлёнак з калгаса «10 год Кастрычніка» Рэчыцкага раёна, які намалаціў, паводле апошніх даных Мінсельгасхарча, 1265 тон збожжа, а таксама Міхаіл Кухарэнка з калгаса «Зара» Магілёўскага раёна: яго паказчык — 1280 тона.**

Добрыя шанцы на атрыманне матацыкла ў вадзіцеля Мікалая Русецкага з гаспадаркі «Світанак» Кіраўскага раёна, які перавёз на сваім «Кіраўцы» 2450 тон збожжа, неблагі паказчык і ў Мікалая Шэлеста з калгаса «Прагрэс» Столінскага раёна — 2082 тон.

P. S. Па разліках спецыялістаў, тысяча тон збожжа задавальняе патрэбу амаль васьмі тысяч чалавек на працягу года. Вось і падлічыце, колькі гараджан ужо забяспечылі хлебам лепшыя камбайнеры і вадзіцелі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## НАЗНАЧЭННІ

### УКАЗАМІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НАЗНАЧАНЫ:

Палкоўнік унутранай службы Кашаленка Уладзіслаў Васільевіч — намеснікам міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

Палкоўнік Нікіцін Валянцін Захаравіч — начальнікам кантрольна-інспектарскага аддзела апарату Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь.

Палкоўнік Караткевіч Мікалай Міхайлавіч — начальнікам упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гомельскай вобласці.

Палкоўнік міліцыі Удавікоў Міхаіл Дзмітрыевіч — начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома.

**БЕЛТА.**



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.




Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

## РЭХА ПАДЗЕЙ

# РАЯЦЦА МНОГІЯ, А ПРЫМАЕ РАШЭННІ АДЗІН

### «Круглы стол» без Прэзідэнта не здольны прынесці істотных вынікаў

**Адна з найбольш значных палітычных падзей, якія адбыліся на мінулым тыдні ў Беларусі, — «круглы стол» з удзелам лідэраў вядучых палітычных партый, Вярхоўнага Савета, а таксама прадстаўнікоў урада і некаторых грамадскіх арганізацый.**

Пярэчыць ініцыятарам ідэі «круглага стала» як формы пошуку згоды ў грамадстве гэтак жа складана і бессэнсоўна, як і выступаць супраць рэферэндуму як сродку народнага волевыяўлення. Іншая справа, што ва ўмовах сённяшняй беларускай рэчаіснасці любыя пошукі паразумення і кансалідацыі могуць аказацца марнымі, калі ў іх не прымае ўдзелу галоўны суб'ект беларускай палітыкі — Прэзідэнт.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка пасяджэнне за «круглым сталом» праігнараваў, аб'явіўшы яго справай бескарыснай і не вартай увагі. У працягу палітыкаў, якія сабраліся 21 жніўня, кіраўнік дзяржавы ў сярэдзіне верасня збярэ свой, альтэрнатыўны «круглы стол», прысвечаны абмеркаванню праекта чарговай антыкрызіснай праграмы.

Нягледзячы на тое, што выніковы дакумент «непрэзідэнцкага» «круглага стала» пакуль не падпісаны і ўдзельнікі збярэцца на пасяджэнне і на наступным тыдні, — ужо сёння зразумела, што істотна паўплываць на развіццё палітычнай сітуацыі ў краіне гэта акцыя не зможа.

Сам факт правядзення «круглага стала» і змест падпісанага 21 жніўня пагаднення зафіксавалі і без таго відавочную рэальнасць: усе вядучыя палітычныя партыі адзіныя ў сваім памкненні адстойваць прынцыпы прававой дзяржавы. Дзеючая Канстытуцыя для іх — тая платформа, якая здольна аб'яднаць нават самыя непрымірымыя палітычныя сілы.

Але гэтая ж Канстытуцыя — бар'ер, які замінае падпісацца пад відавочнымі дэмакратычнымі прынцыпамі Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Канстытуцыйны суд за мінулыя паўтара года зафіксаваў больш як дзесятак парушэнняў Канстытуцыі і законаў, дапушчаных кіраўніком дзяржавы. Фармальна гэтыя парушэнні ў любы момант здольны стаць законным сродкам барацьбы з Прэзідэнтам з боку Вярхоўнага Савета. І гэта пагроза будзе навісаць над Аляксандрам Лукашэнкам да таго часу, пакуль існуюць і дзейнічаюць гэта Канстытуцыя і гэты Канстытуцыйны суд.

Увогуле, сітуацыя парадаксальная. Над праектам гэтай Канстытуцыі народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка ў свой час актыўна працаваў у складзе канстытуцыйнай камісіі; гэтая Канстытуцыя адным толькі ўвядзеннем пасады Прэзідэнта адкрыла яму дарогу ў кіраўнікі дзяржавы; на гэтай Канстытуцыі ён прыносіў прысягу на вернасць народу, кленучыся выконваць яе, Канстытуцыю, і прынятыя на аснове яе законы; і яе ж Аляксандр Лукашэнка аб'явіў цяпер недасканалай, супярэчлівай, якая парушае баланс уладаў і пагражае дэстабілізацыяй у грамадстве.

Сёння ўжо відавочна: шанцы на тое, што першы Прэзідэнт Беларусі стане «магільшчыкам» першай беларускай Канстытуцыі — вельмі высокія. Што далей?

На маю думку, дарэмна цяпер дэмакратычныя палітыкі палохаюць грамадства прывідам дыктатуры і самаўладства. Па-мойму, намнога больш рэальна, што пасля перамоўнага для Прэзідэнта рэферэндуму 7 лістапада

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№302**

### АБ ПАРАДКУ ВЫЗНАЧЭННЯ МІНІМАЛЬНЫХ СТАВАК АРЭНДНАЙ ПЛАТЫ ЗА ПАМЯШКАННІ Ў АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ БУДЫНКАХ І ЗБУДАВАННЯХ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАСНАСЦІ

У мэтах упарадкавання выкарыстання дзяржаўнай уласнасці, спынення правапарушэнняў у галіне арэндных адносінаў і абароны эканамічных інтарэсаў дзяржавы **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць прыкладаемы Парадак вызначэння мінімальных ставак арэнднай платы за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці.

Устанавіць, што гэты Парадак распаўсюджваецца на камунальную ўласнасць у той частцы, у якой гэта не супярэчыць парадку кіравання і распараджэння камунальнай уласнасцю, вызначанаму ў адпаведнасці з артыкулам 120 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь мясцовымі Саветамі дэпутатаў.

2. Прадаставіць права Рэспубліканскай камісіі па ўпарадкаванню выкарыстання адміністрацыйных будынкаў, збудаванняў, вытворчых плошчаў і іншых аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці:

даваць растлумачэнні аб прымяненні Парадку вызначэння мінімальных ставак арэнднай платы за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці;

удакладняць парадак вызначэння і мінімальныя стаўкі арэнднай платы для асобных катэгорый арандатараў.

3. Рашэнні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў дзейнічаюць у той частцы, у якой яны не супярэчаць гэтаму Указу.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін забяспечыць прывядзенне ў адпаведнасць з гэтым указам рашэнняў Урада і падведамных яму органаў.

5. Арэндадаўцам забяспечыць першачарговае прадастаўленне неабходных памяшканняў у адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, у арэнду ўстановам і арганізацыям, што фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ Эксперты ЕС лічаць неабходным прадаць пасля перазразліку **акцыі дзяржавы** ў статутных фондах банкаў, «што дапаможа пазбегнуць уцягнення дзяржавы ў камерцыйную дзейнасць, якая ўяўляе сабой шырокае поле для злоўжыванняў і часта вядзе **да карупцыі**».

❑ У бюджэт недапаступіла ў гэтым годзе каля **3 трыльёнаў рублёў мытных пошлін,** а памер бесспадстаўна прадастаўленых асобным прадпрыемствам мытных ільгот склаў 7 працэнтаў ад даходнай часткі бюджэту ў студзені—чэрвені.

❑ Сёння ўзровень замежных інвестыцый на душу насельніцтва ў Беларусі **складае 1 долар.**

❑ У структуры сукупнай грашовай масы ў І паўгоддзі найбольш прыметна абазначыліся наступныя тэндэнцыі: **колькасць наяўных грошай** у абарачэнні **павялічыліся** на 46 працэнтаў, а іх удзельная вага ў грашовай масе ўзрасла да 26 працэнтаў.

❑ Запазычанасць па выплаце **зарплаты** ўжо перавысіла 978 мільярдаў рублёў.

❑ За сем месяцаў гэтага года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года **цэны на будаўнічыя матэрыялы** ў сярэднім выраслі ў 1,2 раза.

❑ На кожныя **100 тысяч моладзі** ў год у нас рэгіструецца **24** выпадкі самазабойстваў сярод юнакоў і прыкладна **5** — сярод дзяўчат.

❑ Калі ў мінулым годзе на рахунку непаўналетніх было сем **наўмысных забойстваў,** то ў бягучым іх ўжо ўчынена 38.



# УКАЗ
# ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ №302

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

6. Міністэрствам і іншым цэнтральным органам кіравання, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому ў месячны тэрмін забяспечыць прывядзенне ў адпаведнасць з парадкам вызначэння мінімальных ставак арэнднай платы за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, дагавораў арэнды памяшканняў у адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці.

7. Рэкамендаваць мясцовым Саветам дэпутатаў прыняць рашэнні, накіраваныя на рэалізацыю палажэнняў гэтага Указа.

Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам забяспечыць прыняцце рашэнняў, указаных у частцы першай гэтага пункта.

8. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Рэспубліканскую камісію па ўпарадкаванню выкарыстання адміністрацыйных будынкаў, збудаванняў, вытворчых плошчаў і іншых аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці.

9. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
*21 жніўня 1996 г., г.Мінск.*

*Зацверджаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 21 жніўня 1996 г. № 302*

## ПАРАДАК
## вызначэння мінімальных ставак арэнднай платы за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці

Гэты Парадак накіраваны на ўдасканаленне арэндных адносінаў і ўстанаўлівае механізм вылічэння мінімальных ставак арэнднай платы за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай (рэспубліканскай і камунальнай) уласнасці.

### Агульныя палажэнні

1. Мінімальныя стаўкі арэнднай платы за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх арэндадаўцаў памяшканняў у адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, і прымяняюцца для арандатараў усіх формаў уласнасці.

Арэндная плата за памяшканні ў адміністрацыйных будынках і збудаваннях не можа быць ніжэйшая за гэтыя стаўкі, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або ўпаўнаважаным ім органам.

2. Арэндная плата ўносіцца ў беларускіх рублях па курсу Нацыянальнага банка на дзень выплаты, за выключэннем выпадкаў, калі ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь плацяжы робяцца ў замежнай валюце.

3. Мінімальная стаўка арэнднай платы:

уключае ў сябе амартызацыйныя адлічэнні па арандуемых памяшканнях;

не ўключае адпаведныя расходы па эксплуатацыі і бягучаму рамонту будынкаў і памяшканняў, затраты на ацяпленне і камунальныя паслугі, падатак на нерухомасць, на зямлю і іншыя падаткі і плацяжы, што выплачваюцца за арандуемыя памяшканні.

### Разлік мінімальных ставак арэнднай платы

4. З улікам месцазнаходжання і прызначэння адміністрацыйных будынкаў і збудаванняў прымяняюцца наступныя мінімальныя стаўкі арэнднай платы:

| *Мэтавае прызначэнне памяшканняў* | *Мінімальныя стаўкі арэнднай платы за 1 кв.метр агульнай плошчы у месяц (долараў ЗША)* | |
|---|---|---|
| | *у г.Мінску* | *у абласных цэнтрах* |
| Памяшканні, якія выкарыстоўваюцца для вытворчасці прадукцыі, выканання работ і аказання паслуг (вытворчыя памяшканні) | 5 | 2,5 |
| Памяшканні, якія выкарыстоўваюцца для размяшчэння кіраўнікоў, органаў кіравання і кантролю юрыдычных асоб і іншых мэтаў, не звязаных з вытворчасцю прадукцыі, выкананнем работ і аказаннем паслуг (невытворчыя памяшканні) | 10 | 6 |
| Памяшканні, якія выкарыстоўваюцца адначасова для вытворчасці прадукцыі, выканання работ, аказання паслуг і іншых мэт (змешаныя памяшканні) | 7 | 4 |

Для населеных пунктаў, не ўказаных у частцы першай гэтага пункта, адпаведныя мінімальныя стаўкі арэнднай платы зацвярджаюцца аблвыканкомамі па ўзгадненню з Рэспубліканскай камісіяй па ўпарадкаванню выкарыстання адміністрацыйных будынкаў, збудаванняў, вытворчых плошчаў і іншых аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці.

Мэтавае прызначэнне памяшканняў вызначаецца ў дагаворы арэнды зыходзячы з характарыстык памяшкання. У дагаворы арэнды памяшканняў у адміністрацыйных будынках і збудаваннях, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці, павінны прадугледжвацца штраф і спагнанне арэнднай платы ў павышаным памеры за выкарыстанне памяшканняў не па мэтаваму прызначэнню, указанаму ў адпаведным дагаворы арэнды.

5. Мінімальныя стаўкі арэнднай платы, прадугледжаныя ў пункце 4 гэтага Парадку, памнажаюцца на наступныя паніжальныя каэфіцыенты:

5.1. каэфіцыент месцараспалажэння будынкаў (0,6 — 1,0), які ўстанаўліваецца аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам у залежнасці ад месцазнаходжання гэтых будынкаў;

5.2. каэфіцыенты камфортнасці, якія маюць наступныя значэнні:

0,5 — для памяшканняў без прыроднага асвятлення;
0,9 — для цокальных памяшканняў або 0,75 — для падвальных памяшканняў;
0,9 — для памяшканняў без ацяплення;
0,9 — для памяшканняў без цэнтральнага водазабеспячэння і водаадвядзення;
0,9 — для памяшканняў плошчай да 60 кв. метраў уключна без тэлефоннай сувязі або 0,95 — для памяшканняў плошчай звыш 60 кв. метраў без тэлефоннай сувязі.

6. Пры наяўнасці падстаў для прымянення некалькіх каэфіцыентаў, прадугледжаных у пункце 5 гэтага Парадку, прымяняюцца ўсе адпаведныя каэфіцыенты.

7. Плошча здаваемых у арэнду памяшканняў у адміністрацыйных будынках і збудаваннях вызначаецца па тэхнічнаму пашпарту гэтых будынкаў і збудаванняў, а пры адсутнасці пашпарта — шляхам абмеру памяшканняў створанай арэндадаўцам камісіяй.

Агульная плошча будынка разлічваецца зыходзячы з нарміраванай плошчы з выкарыстаннем каэфіцыента пераводу, велічыня якога вызначаецца па фактычных суадносінах агульнай плошчы да нарміруемай, але не павінна перавышаць 1,5.

8. Для ўстанаўлення мінімальных ставак арэнднай платы за ўвесь перыяд дзеяння дагавора арэнды час арэнды вызначаецца ў гадах і месяцах, пры гэтым плата за няпоўны месяц арэнды ўносіцца як за поўны месяц.

Ільготы па арэнднай плаце асобным арандатарам

9. Арэндная плата не бярэцца і мінімальныя стаўкі арэнднай платы не прымяняюцца ў адносінах да:

памяшканняў, што выкарыстоўваюцца для ажыццяўлення дзейнасці, фінансуемай з дзяржаўнага (рэспубліканскага і (або) мясцовага) бюджэту;

бібліятэк.

10. Ільготныя мінімальныя стаўкі арэнднай платы прымяняюцца ў адносінах да:

грамадскіх аб'яднанняў, якія не ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць, — у памеры 0,1 мінімальнай стаўкі арэнднай платы для невытворчых памяшканняў (плошча памяшканняў звыш 50 кв.метраў аплачваецца на агульных падставах);

творчых саюзаў — у памеры 0,2 мінімальнай стаўкі арэнднай платы для вытворчых памяшканняў (калі памяшканні выкарыстоўваюцца для размяшчэння творчых майстэрань. Плошча такіх памяшканняў звыш 100 кв. метраў аплачваецца на агульных падставах);

аптэк і аптэчных кіяскаў (аптэчных пунктаў), кіяскаў Белсаюздруку, прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, грамадскага харчавання з гандлёвай нацэнкай не вышэй за 70 працэнтаў і вытворчых падраздзяленняў жыллёва-камунальнай гаспадаркі — у памеры 0,4 мінімальнай стаўкі арэнднай платы для вытворчых памяшканняў;

навучальных устаноў, дзіцячых і юнацкіх спартыўных школ — у памеры 0,2 мінімальнай стаўкі арэнднай платы для невытворчых памяшканняў (калі такія памяшканні выкарыстоўваюцца для навучальных мэтаў).

У адносінах да юрыдычных асоб (іх падраздзяленняў), указаных у гэтым пункце, прымяняюцца таксама паніжальныя каэфіцыенты, прадугледжаныя пунктам 5 гэтага Парадку.

### Субарэнда

11. У выпадку здачы памяшканняў у субарэнду мінімальныя стаўкі арэнднай платы вызначаюцца ў адпаведнасці з гэтым Парадкам у прымяненні да субарандатара, незалежна ад таго, як яны вызначаны для арандатара.

# УКАЗ
# ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ №313
## Аб унясенні змянення ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 красавіка 1996 г.№ 155

У пункце 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 красавіка 1996 г. № 155 «Аб бясплатным праездзе грамадзян , якія дасягнулі пенсіённага ўзросту, на прыгарадным транспарце» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 12, арт.304) словы: «з 1 па 30 верасня» замяніць словамі: «з 1 верасня па 31 кастрычніка».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
*22 жніўня 1996 г., г.Мінск.*

# ПРЭЗІДЭНТ — ЗА ПАЗІТЫЎНУЮ КРЫТЫКУ, АЛЕ СУПРАЦЬ ТЭНДЭНЦЫЙНАСЦІ

**У нядаўнім інтэрв'ю амерыканскаму агенцтву «Асашыэйтэд Прэс» Прэзідэнт Беларусі, адказваючы на пытанне аб яго ўзаемаадносінах са СМІ, адзначыў, што, на жаль, некаторыя прадстаўнікі заходніх, расійскіх і нават беларускіх СМІ тэндэнцыйна асвятляюць палітычную сітуацыю ў Беларусі і асабліва палітыку, якую праводзіць Прэзідэнт краіны.**

Галоўнай прычынай, з-за якой гэта адбываецца, кіраўнік дзяржавы назваў сваю празмерную дэмакратычнасць у адносінах да сродкаў масавай інфармацыі. Прэзідэнт адзначыў, што ёсць група СМІ, якая спансіруецца пэўнымі фінансавымі групамі або камерцыйнымі структурамі, якія прадстаўляюць інтарэсы некаторых палітычных дзеячаў. Паводле яго слоў, большасць з іх — гэта тыя, хто ў свой час прайграў прэзідэнцкія выбары Лукашэнку. «Любыя мае дзеянні, — сказаў Прэзідэнт, — у такой прэсе будуць прадузята асветлены». Частка СМІ, лічыць Аляксандр Лукашэнка, актыўна крытыкуюць яго за тое, што ён не праводзіць радыкальнае рэфарміраванне беларускай эканомікі, суперрыначную палітыку. «Але ж гэта не ўваходзіць у мае перадвыбарныя абяцанні», — адзначыў ён.

Паводле слоў А.Лукашэнкі, сродкі масавай інфармацыі, за якімі стаіць інтэлігенцыя, больш спакойныя ў ацэнцы дзейнасці Прэзідэнта, выступаюць з пазітыўнай крытыкай, якую кіраўнік дзяржавы нармальна ўспрымае, як і дапускае з'яўленне на палосах некаторых дзяржаўных СМІ, адзначыўшы, у прыватнасці, газету «Звязда», матэрыялаў антыпрэзідэнцкага характару.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

# Раяцца многія, а прымае рашэнні адзін

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Прэзідэнт няўхільна і паслядоўна праводзіў сваю палітыку, не азіраючыся на іншыя ўладныя інстытуты, але пры гэтым сустракаў з іх боку законнае процідзеянне ў тых выпадках, калі яго крокі супярэчылі заканадаўству. Пасля перамогі на рэферэндуме ён будзе працягваць сваю лінію, — але ўжо не сустракаючы ці амаль не сустракаючы супраціўлення. (Многае тут залежыць ад складальнікаў новай версіі Канстытуцыі. Практыка сведчыць: прадугледзець усе магчымыя варыянты немагчыма. У гэтым сэнсе новая Канстытуцыя праз пэўны час здольна сыграць злы жарт са сваімі стваральнікамі.)

Што да магчымасці ўсталявання ў Беларусі аўтарытарнага рэжыму, то яна існавала і будзе існаваць, як і амаль ва ўсіх краінах на пераходным этапе, якія перажываюць жорсткі эканамічны крызіс. І засцерагальнікам ад дыктатуры ў цяперашніх умовах служыць не столькі Канстытуцыя, колькі дэмакратычны дзяржаўны лад у Расіі і ў іншых суседніх краінах, на якія міжволі вымушана раўняцца Беларусь.

Такім чынам, у выніку перагляду Канстытуцыі найбольшыя ўзрушэнні чакаюць палітыкаў. Для іх зменяцца правілы гульні: адных гэта паставіць у загадзя выйгрышнае становішча, другія, наадварот, адчуюць сябе асуджанымі на паражэнне. Што да радавых выбаршчыкаў, то яны яшчэ доўгі час пасля рэферэндуму будуць задаваць адзін аднаму пытанні пра тое, навошта быў патрэбен рэферэндум і каму ад яго стала лепш.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

**Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, чарговы рабочы тыдзень кіраўніка дзяржавы А. Лукашэнкі будзе насычаны мерапрыемствамі, што маюць важнае значэнне для сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Прэзідэнт правядзе шэраг сустрэч з кіраўнікамі цэнтральных органаў кіравання, прадстаўнікамі інтэлігенцыі, працаўнікамі прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.**

У ходзе рабочай паездкі ў Слуцкі раён Прэзідэнт азнаёміцца са станам сельскагаспадарчых работ на Міншчыне, наведае збожжапрыёмныя пункты, камбінат хлебапрадуктаў.

У новым Доме культуры Слуцкага цукровага завода Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь правядзе сустрэчу з прадстаўнікамі працоўных калектываў і кіраўнікамі горада і раёна.

Напярэдадні новага навучальнага года А. Р. Лукашэнка сустрэнецца з прадстаўнікамі настаўніцтва рэспублікі. Будуць абмеркаваны пытанні рэформы школьнай адукацыі, сацыяльнай абароны педагагічных работнікаў і моладзі.

Надзвычайныя і паўнамоцныя паслы Югаславіі, Паўднёвай Карэі і Інданезіі ў Рэспубліцы Беларусь уручаць кіраўніку дзяржавы даверчыя граматы.

**БЕЛТА.**

# КІРАЎНІК ДЗЯРЖАВЫ ГАТОЎ ПАДПІСАЦЬ УКАЗ АБ ПРАВЯДЗЕННІ КАНГРЭСА

**У бліжэйшы час Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпіша указ аб правядзенні Кангрэса народа Беларусі.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА кіраўнік дзяржавы, у ім будуць вызначаны дата, мэты і задачы плануемага форуму. Чакаецца, што ў рабоце кангрэса прымуць удзел каля шасці тысяч чалавек, якія прадставяць усе рэгіёны Беларусі. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што напярэдадні важных грамадска-палітычных падзей, якія адбудуцца ў рэспубліцы ў бліжэйшай будучыні, ён лічыць неабходным параіцца і абмеркаваць з людзьмі многія актуальныя праблемы.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

# ЗЯНОН ПАЗНЯК МОЖА ВЯРТАЦЦА ПАД ГАРАНТЫІ ПРЭЗІДЭНТА

**У выпадку вяртання ў Беларусь лідэра Беларускага народнага фронту яму не пагражае ніякая небяспека. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, даючы нядаўна інтэрв'ю амерыканскаму агенцтву «Асашыэйтэд Прэс».**

Акрамя таго, кіраўнік дзяржавы гарантуе, што «ні адзін волас не ўпадзе з галавы Зянона Пазняка». Аляксандр Лукашэнка аргументавана абверг чуткі аб магчымым арышце лідэра БНФ. «Нідзе і ніколі не стаяла пытанне аб яго арышце. Арыштаваць Пазняка — значыць зрабіць яго «пакутнікам», — сказаў Прэзідэнт. — Для мяне няма лепшага кіраўніка апазіцыі, чым гэты палітык-банкрут». На думку кіраўніка дзяржавы, эміграцыя З.Пазняка — гэта спосаб, якім апазіцыя спадзяецца прыгожа адхіліць лідэра, што страціў аўтарытэт.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

# АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых у ліпені 1996 года склала 1.329.853 рублі (у чэрвені была 1.271.809 рублёў). У студзені—ліпені 1996 года яна склала 1.173.136 рублёў і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 1,7 раза.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 318
## Аб штомесячнай грашовай выплаце грамадзянам, якія маюць ганаровыя званні

1. У мэтах паляпшэння эканамічнага становішча і сацыяльнай падтрымкі грамадзян, якія жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і маюць ганаровыя званні «Народны артыст СССР», «Народны мастак СССР», «Народны архітэктар СССР», «Народны ўрач СССР», «Народны настаўнік СССР», «Народны настаўнік БССР», «Народны паэт Беларусі», «Народны мастак Беларусі», «Народны артыст Беларусі», устанавіць штомесячную грашовую выплату ў памеры трох мінімальных заработных плат.

2. Вызваліць грамадзян, якія маюць вышэйпералічаныя ганаровыя званні, ад выплаты падаходнага падатку на суму выплат, прадугледжаных у пункце 1 гэтага Указа.

Устанавіць, што на суму названых выплат адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны не праводзяцца.

3. Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам фінансаў, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам сацыяльнай абароны, Міністэрствам культуры, Міністэрствам аховы здароўя, Міністэрствам адукацыі і навукі распрацаваць механізм ажыццяўлення штомесячнай грашовай выплаты грамадзянам, якія маюць адно з ганаровых званняў, пералічаных у пункце 1 гэтага Указа, і праводзіць яе пачынаючы з 1 кастрычніка 1996 г. у межах выдзеленых бюджэтных асігнаванняў на 1996 год.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
23 жніўня 1996 г., г.Мінск.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 23 жніўня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША Купля | Долар ЗША Продаж | Нямецкая марка Купля | Нямецкая марка Продаж | Расійскі рубель Купля | Расійскі рубель Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 16300 | | 10900 | | 3.00 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 16150 | 16450 | 10700 | 10850 | 2.90 | 3.05 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 16328<br>5350 | 16500<br>5456 | 10930 | 11100 | 3.024 | 3.07 | 331-917 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 16320 | 16600 | 10800 | 11000 | 2.96 | 3.05 | 342-012 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14400 | | 9700.24 | | 2.69 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 5311 | | 3500.05 | | 100 бел. р. 32.20 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*

ПЫТАЛЬНІК ПЫТАЛЬНІК

## ЗА ШКОДНАСЦЬ ВЫДАЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ МАЛАКО

**Я працую ў калгасным цэху, дзе ў вытворчасці выкарыстоўваецца газ, сярністы ангідрыд. Раскажыце аб мерах засцярогі пры рабоце з ім, а таксама аб ільготах, якія прадугледжаны працоўным заканадаўствам для працуючых з гэтым газам.**

**В. ЗАБРОДСКІ, Слуцкі раён.**

Пры рабоце са шкоднымі газамі ваша прадпрыемства ў асобе кіраўніцтва павінна забяспечыць паўнацэннае праветрыванне памяшканняў. Калі ўзнікаюць цяжкасці пры ўстанаўленні патрэбнай вентыляцыі, работнікам фірмы павінны выдавацца рэспіратары, а пры неабходнасці — процівагазы. Акрамя таго, усім работнікам вашага прадпрыемства заканадаўствам прадугледжана бясплатная выдача малака. Больш значныя льготы могуць быць уведзены пасля ўважлівага аналізу ўмоў вашай працы і катэгорыі прафесіі. У гэтым разе вы зможаце разлічваць на дадатковыя 6 ці 12 дзён водпуску, якія будуць дадавацца да вашага чарговага водпуску. Па выніках атэстацыі працоўных месцаў, пры адпаведнай суме балаў работнікам прызначаецца льготная пенсія і даплата за шкодныя ўмовы працы ў памеры ад 4 да 12 працэнтаў — у залежнасці ад ступені шкоднасці.

Каб атрымаць больш дакладную інфармацыю, раю вам звярнуцца да інжынера па ахове працы прадпрыемства ці ў прафсаюзны камітэт. Калі дома вы не атрымаеце талковых тлумачэнняў, наведайце Слуцкую раённую занальную дзяржаўную інспекцыю па ахове працы. Там працуюць дастаткова кампетэнтныя людзі, прамы абавязак якіх — абараняць правы і здароўе працоўных.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ЦІ ЁСЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ АТРЫМАЦЬ КРЭДЫТ?

**Для таго, каб пачаць уласную справу, неабходны першапачатковы капітал. Куды можна звярнуцца прадпрымальніку па дапамогу на атрыманне грашовага крэдыту?**

**С. БАЛЬШАКОЎ, г. Мінск.**

Вам, Сяргей, перш- наперш трэба звярнуцца ў Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў па адрасу: г. Мінск, вул. Серафімовіча, 11. Калі вы пачынаючы прадпрымальнік, хутчэй за ўсё, крэдытаванне вашага прадпрыемства магчыма па праграме «Старт». Для сталых прадпрыемстваў малога бізнесу існуе іншая праграма — «Развіццё ўзорных прыватных прадпрыемстваў». Акрамя таго, у Беларусі інвестыцыйны крэдыт па лініі Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця можна атрымаць у «Пріорбанку», дарэчы, апошні і сам крэдытуе кліентаў. Сярод іншых замежных арганізацый фінансавую дапамогу нашым бізнесменам аказваюць Фонд падтрымкі прадпрыемстваў у новых заходніх незалежных дзяржавах (Беларусь, Малдавія, Украіна) і Беларускі фонд Сораса (размеркаванне грантаў у рамках праграмы «Эканоміка і прадпрымальніцтва»). Выдзяленнем крэдытаў займаюцца і нашы камерцыйныя банкі: Белзнешэканомбанк, Белінвестбанк, Джэмбанк, ААБ «Беларусбанк», банк «Поіск». Трэба адзначыць, што фінансавыя ўстановы, якія займаюцца крэдытаваннем прыдпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу, прытрымліваюцца ў асноўным адзінага парадку ў выдзяленні грошай. Так, крэдытаванне праектаў адбываецца на конкурснай аснове, для чаго, у прыватнасці, патрабуюцца бізнес-план, дакументы аб фінансавым стане прадпрыемства і ўмовах вяртання крэдыту. Дарэчы, некаторыя інвестары аказваюць дапамогу ў складанні бізнес-планаў сваім патэнцыяльным кліентам.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ЯК ВЯРНУЦЬ ДОЎГ?

**Паважаны «Пытальнік»!**

**Дапамажыце вырашыць такую праблему. Я пазычыў свайму знаёмаму буйную суму грошай. Суд вынес рашэнне на маю карысць, але гэты таварыш з'ехаў у Расію і, падобна, не спяшаецца вяртацца. Парайце, як мне вярнуць мае грошы?**

**КЛІМАЎ С. І., г. Брэст.**

У 1993 г. паміж краінамі СНД падпісана Канвенцыя аб прававой дапамозе па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах.

У адпаведнасці з п. 51 гэтай канвенцыі кожны з дагаворных бакоў прызнае і выконвае рашэнне, вынесенае на тэрыторыі другога дагаворнага боку. Хадайніцтва аб выкананні рашэння можа быць пададзена ў суд, які вынес рашэнне па гэтай справе.

Таму вы можаце звярнуцца ў суд, які вынес рашэнне па справе, з хадайніцтвам аб выкананні прынятага судовага рашэння.

У хадайніцтве неабходна назваць месца пражывання адказчыка ў Расіі, каб расійскі судовы орган змог яго аператыўна выканаць.

**Віктар ШЧУЧЭНКА**

## ГЭТЫЯ ЛЬГОТЫ НЕ АДМЕНЕНЫ, А ПРЫПЫНЕНЫ

**Адкажыце, калі ласка, чаму сельскім настаўнікам адмянілі льготы на жыллё, ацяпленне і іншыя камунальныя паслугі?**

**П. ПАДРЭЗЕНКА,**
**в. Баршчоўка, Рэчыцкі раён.**

На гэта пытанне, якое, вядома, хвалюе ўсіх настаўнікаў, што жывуць і працуюць у сельскай мясцовасці, адказвае намеснік начальніка ўпраўлення па рабоце з кадрамі і прававому забеспячэнню Міністэрства адукацыі і навукі З. Южык:

— Паважаны Пётр Сямёнавіч, паведамляем вам, што ў адпаведнасці з Законам «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» (арт. 34 ч. 2) педагагічныя работнікі з сельскай мясцовасці (у тым ліку пенсіянеры) мелі права карыстацца бясплатна жылой плошчай, ацяпленнем і асвятленнем.

У цяперашні час дзеянне вышэйпамянёных ільгот не адменена, а прыпынена Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 года № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян».

**Падрыхтаваў Іван БРАЛКА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ... ПАЧЫТАЦЬ МЯСЦОВУЮ ПРЭСУ

**СЯРОД ШМАТЛІКІХ ВЫДАННЯЎ, якія выходзяць зараз на Магілёўшчыне, няма, на жаль, ніводнага «крымінальнага». Тым не менш, гэтую нішу з поспехам запаўняюць многія грамадска-палітычныя газеты. «Магілёўскія ведамасці» — самыя, дарэчы, масавыя ў вобласці — друкуюць спецыяльную старонку «Дэтэктыў «МВ». Некаторыя яе публікацыі прыцягнулі ўвагу нашага карэспандэнта.**

### ЗОЛАТА ШУКАЎ... У МАГІЛЕ

У вёсцы Булыжычы Магілёўскага раёна мясцовыя жыхары са здзіўленнем убачылі раскапаную магілу загінуўшай не так даўно маладой жанчыны. Нехта выказаў здагадку: сексуальны маньяк. Ведаеце, ёсць такія хворыя асобы, якіх цягне на трупы.

Але тут справа аказалася куды больш простай.

Эдуард Бондараў, жыхар абласнога цэнтра, ужо быў асуджаны за крадзеж асабістай маёмасці грамадзян. Умоўна вызвалены з папраўча-працоўнай калоніі, далей «перавыхоўваўся» на будоўлях народнай гаспадаркі. Рэжым там не дужа строгі, таму Эдзік без асаблівых цяжкасцей адправіўся ў самавольную пабыўку на радзіму. За вяртанне належыць выпіць, а ў кішэнях пуста. Тады адзін «карашок» успомніў: у аўтакатастрофе загінула багатая лэдзі, пахавана ў золаце і брыльянтах. Узброіўшыся сапёрнай рыдлёўкай, Бондараў падаўся на раскопкі. У вёску прыехаў ноччу, знайшоў патрэбную магілу і пачаў капаць. Дабраўся да труны, праламаў дошкі. На судзе ён потым тлумачыў, што спужаўся нейкага гуку, таму справу да канца не давёў і з месца злачынства збег. Заняўся знаёмым промыслам — абкрадаў установы і кватэры. На чым і папаўся.

Аднак не знайшоў ён скарбу ў магіле таму, што і не мог знайсці. Не было на нябожчыцы ні золата, ні брыльянтаў. Не было нават просценькага пярсцёнка ці ланцужка. Інфармацыя «братвы», дагэтуль, між іншым, неўстаноўленай, аказалася «вуткай». А рабаўнік магілы зноў трапіў за краты. Цяпер ужо на 7,5 года.

### У ТУРМУ ЗА «ЖАРТ»

Зноў жа ўмоўна асуджаны магіляўчанін. І зноў прама з «пабыўкі». На будоўлі ў Клімавічах знайшоў ён сабе палюбоўніцу, законны муж якой таксама «цягнуў тэрмін», і вырашыў паказаць каханку сваякам. Як заўсёды бывае ў такіх выпадках, пачыналі з застолля. І, як заўсёды, аказвалася мала. Знаходзячыся ў сястры, наш «герой» звярнуў увагу на тое, што яе дзіця гуляе з паперкай, падобнай на 50-тысячную купюру. Такія «грошы» зараз проста вырабляюць на ксераксе. Малады выпрасіў папяровую цацку, узяў каляровыя алоўкі і пачаў работу.

— Навошта табе гэта? — спыталі ў яго.

— Над кім-небудзь пажартую.

Нагода для «жарту» хутка з'явілася. Калі ўсё было выпіта, фальшываманетчык адправіўся да школьнай знаёмай, у якой заўсёды вадзілася гарэлка. Жанчына пачаставала госця, а той папрасіў яшчэ бутэльку з сабой. Не дала. Тады няўдзячны таварыш палез у кішэню і дастаў падробленыя 50 тысяч. У магазіне, вядома, нумар не ўдаўся б, бо «грошы» былі выраблены надта тапорна. Але тут прайшло.

Падробку выявілі назаўтра, калі за выручкай прыехалі «прадпрымальнікі». Аказваецца, існуе і такі бізнес: спрытныя хлопцы забяспечваюць прыватных асоб таварам, тыя гандлююць з нейкім працэнтам для сябе.

У практыцы магілёўскіх судоў гэта першы за ўсю гісторыю выпадак, калі судзілі фальшываманетчыка. І хаця ён не прафесіянал, атрымаў за сваё «мастацтва» 5 гадоў. З грашыма жартаваць нельга.

### «КРУТЫЯ» Ў ВЁСЦЫ

На лаву падсудных прывяла прага да спіртнога Юрыя Парферанку і Сяргея Сукманава. Пачыналася гэтая крымінальная гісторыя са святкавання дня нараджэння сястры жонкі аднаго з іх. Няма сэнсу гаварыць аб тым, што гарэлкі і тут не хапіла. Парферанка пайшоў да сваяка. Ужо раніцай апошні збегаў да суседа і купіў бутэльку гарэлкі. Выпілі. Зноў мала! Госць паскроб па сусеках і знайшоў 20 тысяч. Дабавілі. Калі праспаліся, Юрый хапіўся грошай, а кашалька няма. У крадзяжы западозрыў сваяка.

Тым часам імяніны працягваліся яшчэ цэлы дзень. А вечарам «абкрадзены» разам са знаёмым Сукманавым пайшлі разбірацца са «злодзеем».

Пацярпеўшы расказваў аб гэтым так: «Юра узяў прас і ўключыў яго ў разетку. Калі прас нагрэўся, я ляжаў звязаны на спіне. Юра ўключыў на ўсю гучнасць тэлевізар і прыклаў гарачы прас мне да грудзей. Я закрычаў. Пайшоў дым ад паленай скуры...»

Паберажом нервы чытачоў, чаго, на жаль, не робяць, напрыклад, фільмы. Больш таго. Такі метад катавання перакачаваў у рэальнасць менавіта з «крутых» мастацкіх стужак, якія сталі нядрэннай школай падрыхтоўкі злачынцаў. Але гэта ўжо асобная тэма.

У здарэннях жа, памянёных вышэй, агульнае — п'янства. Ідзе працэс алкагалізацыі насельніцтва. За паўгоддзе на Беларусі прыцягнута да адказнасці 412,4 тысячы п'яніц, у тым ліку да крымінальнай — 9,7 тысячы. Страшная статыстыка.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# ... КУПІЦЬ САБЕ СЯБРА

**НЕ ЗРАЗУМЕЙЦЕ мяне няправільна. Сяброўства, як і сапраўднае каханне, па-ранейшаму немагчыма набыць ні за якія грошы. А гаворка ні-жэй пойдзе пра братоў нашых меншых.**

Перш чым распавесці аб выніках наведвання так званага «звярынага рынку», хочацца нагадаць патэнцыяльным уладальнікам хатніх жывёл словы выдатнага французскага пісьменніка Антуана Сент-Экзюперы: «Мы ў адказнасці за тых, каго прыручаем». Гэта значыць, каб завесці шчанё ці кацянё, недастаткова толькі аднаго жадання ды пэўнай сумы грошай. Трэба прыняць на сябе і пэўную адказнасць. Падумайце пра бяссонныя ночы, калі ваш гадаванец захварэе. Пра паабдзіраныя шпалеры і пагрызены абутак. Ды ці мала яшчэ пра што... Ну, а калі ніякія цяжкасці вас не пужаюць, і вы цвёрда прынялі рашэнне, тады — у добры шлях!

Як і раней, выбар сабак у Ждановічах — бадай што самы багаты на рынку. У асноўным гэта прадстаўнікі арыстакратычных парод, і іх шчане здольнае моцна аблегчыць ваш кашалёк. Мяркуйце самі: месячны нашчадак мармуровага дога — 40 долараў, столькі ж каштуе шчаня дабермана з радаслоўнай. Дарэчы, дарослы даберман мае прыкладна 70 сантыметраў у карку. Крыху даражэй абыдзецца шчанё рускага ганчака ці французскага бульдога — 50 «зялёных». Французскі бульдог славіцца выдатнымі якасцямі вартавога сабакі. Як і брыяр, чыё шчанё каштуе ўжо 150 долараў. Чаму так дорага? Напэўна таму, што, як з гонарам паведаміла мне гаспадыня сабакі, прадстаўнік гэтай пароды выканаў галоўную ролю ў фільме «Паліцэйскі сабака». На жаль, не бачыў...

За шчанё каўказскай аўчаркі таксама папросяць 100—150 долараў. Дарослая каўказская аўчарка памерамі больш падобная на цяля, чым на сабаку. Калі такі «сабачка» стане на заднія лапы, а пярэднія пакладзе вам на плечы, утрымацца на нагах будзе амаль немагчыма. Шчанё англійскага піт-буля «пацягне» на 200—300 долараў, а дэкаратыўны пекінэс — «усяго» на 60. Калі ў вас закружылася галава ад такіх лічбаў, ды яшчэ ў замежнай валюце, можаце купіць звычайнага «дварняка». «Колькі каштуе?» — «Колькі дасце», — пачуў я ў адказ. Даюць звычайна 10—15 тысяч рублёў, ды і тое толькі таму, што аддаваць жывёлу «за так» лічыцца дурной прыкметай. Хаця б чыста сімвалічную суму грошай, але заплаціць трэба.

Выбар катоў значна больш сціплы. Беспароднае кацянё каштуе каля 15 тысяч рублёў, а за пушыстае персідскае давядзецца выкласці 40—50 долараў. «Паўперсы» каштуюць 150 тысяч.

Цяпер пра больш дробных млекакормячых — пра грызуноў. Хамякі каштуюць 30—35 тыс. руб. Крыху таннейшыя белыя пацукі — 25—30 тысяч. Вельмі прывабныя звяркі. Дарэчы, у майго сябра жыў некалі белы пацук. У сябра былі доўгія валасы, дык пацук любіў забірацца яму на шыю, хаваўся там пад прычоскай, толькі хвост тырчаў.

Але пацукі падабаюцца не ўсім. У такім выпадку можаце звярнуць увагу на птушак. Аранжавая канарэйка разам з клеткай 50 тысяч. Хвалісты папугай даражэйшы — 70 тыс. рублёў, ды яшчэ клетка 130 тысяч. А вось папугай іншай пароды — карэла — вельмі дарагі: 30—40 долараў плюс спецыяльная клетка за 25 «зялёных». А да размоў яны здольныя яшчэ менш, чым хвалістыя папугаі.

Той, каму бліжэй да сэрца традыцыйныя акварыумныя рыбкі, няхай падрыхтуецца развітацца з некалькімі сотнямі тысяч «зайчыкаў». Акварыум ёмістасцю 40 літраў каштуе 140 тысяч, 45 літраў — 150 тыс. Дробнае каменне для грунту можна сабраць і самому, а на рынку яно, прамытае і пракіпячонае, каштуе 15 тыс. руб. Расліны абыдуцца недзе ў 50 тысяч, прыкладна столькі ж трэба аддаць за 8—12 рыбак. Не забудзьцеся набыць падхватнік (сачок) — 5 тыс. руб.

Аматарам экзотыкі прапануюцца чарапахі памерам з далонь, кошт — ад 95 да 130 тысяч. Харчуюцца яны травой, якая адначасова служыць ім і подсцілам. Гаспадар запэўніваў, што вада чарапахам увогуле непатрэбная, бо ім хапае той вільгаці, якая ўтрымліваецца ў раслінах.

Ну і, нарэшце, самы экзатычны «сябар» чалавека: мадагаскарскі прусак. Гэта трапічнае насякомае жыве пры тэмпературы 28—30°С. Вырастае да васьмі сантыметраў, каштуе 15 тысяч руб. Харчуецца яблыкамі, морквай, капустай і іншай садавіной-агароднінай. «Прусака — ды яшчэ і карміць?!» — абурыўся нехта побач. А што? Мы ж увесь час кормім айчынных, беларускіх прусакоў. Няхай сабе і супраць нашай волі. Чаму ж па сваёй волі не пакарміць мадагаскарскага?

Вось такая разнастайная фаўна паўстае перад вачыма за некалькі кіламетраў ад цэнтра беларускай сталіцы... А цікава, ці прадаюцца на Мадагаскары беларускія зязюлі?

**Ігар АНДРЭЙЧАНКА.**

ПЫТАЛЬНІК ПЫТАЛЬНІК

## ШТО ТРЭБА МЕЦЬ, КАБ КУПІЦЬ МАГАЗІН

**Зараз паўсюдна распрадаюць камунальную ўласнасць з аўкцыёнаў. Якія трэба дакументы, каб у адкрытай барацьбе «паспрачацца» за той ці іншы аб'ект, што ідзе «з малатка»?**

**С. САЙКА, г. Ляхавічы, Брэсцкая вобл.**

У аўкцыёне могуць удзельнічаць як грамадзяне Беларусі, юрыдычныя асобы РБ, працоўныя калектывы, так і замежныя інвестары, асобы без грамадзянства.

Перш чым канчаткова вырашыць, ці набываць аб'ект камунальнай маёмасці, уважліва вывучыце ўмовы продажу прапануемых лотаў. Так, 50 працэнтаў ацэначнага кошту аб'екта прыватызацыі, набытага на аўкцыёне, аплачваецца імяннымі прыватызацыйнымі чэкамі «Маёмасць». Акрамя таго, пакупнік кампенсуе затраты работы камісіі па прыватызацыі, а таксама выдаткі на правядзенне самога аўкцыёну. Некаторыя аб'екты прадаюцца разам са сваімі даўгамі, якія потым кампенсуе новы гаспадар. Калі такія ўмовы вас не палохаюць, то можна рыхтаваць дакументы. Для папярэдняй рэгістрацыі ўдзельніка аўкцыёну — фізічнай асобы — неабходны наступныя дакументы: заява на ўдзел у аўкцыённых таргах і пашпарт, даверанасць, засведчаная натарыяльна, калі ў аўкцыёне ўдзельнічае прадстаўнік, і пашпарт прадстаўніка фізічнай асобы, даведка аб прадстаўленні дэкларацыі аб аб'ёмах і крыніцах інвестыцый, дакументы аб уплаце залогу ў памеры 10 працэнтаў пачатковай цаны, спецыяльнага збору (4 МЗП) за падачу заявы і збору за рэгістрацыю (1/4 МЗП) на рахунак органа прыватызацыі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ЯКІЯ ДАРОГІ ВЯДУЦЬ У ЧЫРВОНЫ КРЫЖ?

**«Звязда», надрукуй, калі ласка, адрас Чырвонага Крыжа Галандыі, Бельгіі і ФРГ...**

**Г. Жлобін, без подпісу.**

Ці не магла б «Звязда» падказаць адрасы Міжнароднага Чырвонага Крыжа і Арганізацыі Аб'яднаных Нацый?

**В. ШАНДЭР,**
**Мазырскі р-н, в. Меляшковічы.**

Як паведамілі ў Рэспубліканскім таварыстве Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, з усімі пытаннямі, якія датычацца арганізацыі лячэння за мяжой, неабходна звяртацца непасрэдна да іх, таму што кантакты з нацыянальнымі прадстаўніцтвамі гэтай арганізацыі адбываюцца толькі пры іх пасрэдніцтве. Любая просьба, накіраваная напрамую, усё роўна будзе пераадрасавана для разгляду Рэспубліканскаму таварыству Чырвонага Крыжа. Яго адрас: г. Мінск, вул. К. Маркса, 35, тэл. 227-14-17, 227-26-20.

Трэба дадаць, што ў красавіку бягучага года ў Мінску адкрылася прадстаўніцтва Міжнароднай федэрацыі Таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца. Яго каардынаты: г. Мінск, вул. Маякоўскага, 14, тэл. 221-72-37, 221-34-46.

## ЗА ПАРУШЭННІ ПРАВІЛАЎ ГАНДЛЮ КАРАЮЦЬ РУБЛЁМ

**Мой гандлёвы ларок праверыла раённая падатковая інспекцыя. У выніку знайшлі парушэнні парадку рэалізацыі тавару за наяўны разлік, г. зн. пры продажы тавару не выдаваліся адрыўныя талоны. Таксама некаторыя тавары ў ларку былі без дакументаў, якія б пацвярджалі іх паступленне. Мяне аштрафавалі на 90 тысяч рублёў, аднак потым яшчэ спагналі 1 млн. рублёў утоенага даходу і канфіскавалі тавар на значную суму. Адкажыце, калі ласка, ці правільна са мной абышліся.**

**М., прыватны прадпрымальнік, г. Мінск.**

Законам РБ «Аб падатках і зборах, спаганяемых у бюджэт Рэспублікі Беларусь» прадугледжана, што фізічныя асобы, якія займаюцца продажам за наяўны разлік, абавязаны прымаць грашовыя сродкі на падставе адрыўных талонаў. Парушэнне гэтага парадку прыводзіць да адказнасці як за ўтойванне даходаў.

Пастановай Кабінета Міністраў і Нацыянальнага банка № 250/13 ад 15 снежня 1994 года ўстаноўлены парадак прыёму грашовых сродкаў пры рэалізацыі тавараў за наяўны разлік на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, на падставе якога ўсе тавары, што захоўваюцца ў пунктах продажу без дакументаў аб іх паступленні, канфіскуюцца ў даход дзяржавы.

Адміністрацыйны штраф з'яўляецца санкцыяй за парушэнне падатковага заканадаўства і накладаецца на кіраўнікоў прадпрыемстваў і грамадзян, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю. У той жа час спагнанне ўтойваемага даходу і канфіскацыя тавару разглядаюцца як урон дзяржаве, нанесены незаконнымі дзеяннямі суб'ектаў гаспадарання.

## НЕ ЎСЯ ПАМАДА БЯСПЕЧНАЯ

**У апошні час у ларках з'явілася шмат імпартнай касметыкі. Знаёмыя кажуць, што яна не ўся бяспечная. Ці так гэта?**

**Люда СОКАЛ, г. Ляхавічы.**

На жаль, гэта так. Усё, што не змог «праглынуць» заходні рынак, было кінута на нашы прылаўкі. Айчынная касметыка, у якой адсутнічаў дызайн упаковак і якую папярэдне не рэкламавалі, не змагла вытрымаць жорсткай канкурэнцыі. Вось і трапляе ў нашы рукі прыгожая прадукцыя, але не заўсёды самай высокай якасці. Скарыстоўваючы такую касметыку, нашы жанчыны амаль асуджаны на пакуты ад алергіі. Самы алергенны прэпарат з дэкаратыўнай касметыкі — туш, да таго ж у яе вельмі маленькі тэрмін прыгоднасці. Вельмі асцярожна трэба падыходзіць і да выбару памады, якая ўтрымлівае тлушч. Яе абавязкова трэба панюхаць. Калі памада пахне прагорклым тлушчам — яна сапсаваная. Памадай можна карыстацца максімум год.

Калі ўсё ж такі вы «папаліся» і на твары ў вас сыпка ці ацёк, не трэба ўзмацняць працэс і «змываць» гэту рэакцыю. У такім разе рэкамендуецца прымяняць кампрэсы з канцэнтраванага адвару рамонкаў і прыём проціалергічных прэпаратаў унутр. Але галоўнае, абавязкова трэба звярнуцца да ўрача.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*ФУТБОЛ. КУБАК УЛАДАЛЬНІКАЎ КУБКАЎ*

# ПАРАЖЭННЕ З ПРЫСМАКАМ НІЧЫЁЙ НА ФОНЕ МЕСЯЦАВАГА ЛАНДШАФТУ

## СПЕЦЫЯЛЬНЫ КАРЭСПАНДЭНТ «ЗВЯЗДЫ» ПЕРАДАЕ З РЭЙК'ЯВІКА

**Паездка футбалістаў Мазырскага МВКЦ на матч у адказ розыгрышу Кубка кубкаў на беразі Атлантыкі, у краіну Гейзераў Ісландыю насіла далёка не забаўляльны характар. Мазыране адпраўляліся на далёкі востраў паспрабаваць футбольнага шчасця.**

**Праўда, дамашняя нічыя двухтыднёвай даўнасці з лікам 2:2 значна ўскладняла шлях да дасягнення жаданага выніку. І цяпер, для таго каб узяць кваліфікацыйны бар'ер, неабходна была перамога з любым лікам ці нічыйным 3:3 і вышэй.**

Вылет мазырскай спартыўнай дэлегацыі быў намечаны на панядзелак, 19 жніўня, чартэрным авіярэйсам Гомель—Берген—Кефлавік.

Дарэчы, як потым высветлілася, для гомельскага аэрапорта, які апошнія некалькі гадоў не спешчаны палётамі такога ўзроўню, ісландскі самалёт быў «за шчасце». Інакш з чаго б мясцовым мытнікам наладжваць «шмон» у багажы адбываючых за мяжу? Некаторыя нават прасілі раскласці змесціва сумак і патрэсці пінжак ці камізэльку. А раптам долары схаваны пад крысом. Большасць пасажыраў павінна была пералічыць перад кантралёрамі «зялёныя» і напісаць аж па дзве мытныя дэкларацыі. Адна — вам, адна — нам.

Праўда, такая дробязь, як мытны кантроль, зусім не сапсавала настрой футбалістаў. Усе разумелі: у кожнага свая работа. А вось як ён яе выконвае — гэта ўжо іншая справа.

У сталічным аэрапорце такім працэдурам ужо даўно ніхто са спартсменаў не падвяргаецца.

Калі ў ілюмінатарах лайнера з'явіліся заснежаныя сопкі, раскіданыя паўсюдна вяршыні вулканаў, мноства прарэзаных маленькімі рэчкамі далін — пункт прызначэння быў блізка. Галоўнай паветранай гаванню Ісландыі з'яўляецца адзіны на востраве міжнародны аэрапорт Кефлавік, дзе, дарэчы, знаходзіцца буйная ваенна-паветраная база НАТО.

Ісландская зямля сустрэла беларусаў халодным для жніўня, пранізлівым ветрам. Мясцовых журналістаў у зале прылёту заўважана не было. Аднак гэта не азначала, што прэса абыякава аднеслася да візіту гасцей. Проста вікінгаў нельга лічыць футбольнымі «фанамі». Да таго ж у Рэйк'явіку выходзіць адна буйная газета — нашага рэспубліканскага маштабу. Відаць, служыцелі пяра рашылі не нагнятаць страсці, лічачы, што іх каманда і без паўторнай сустрэчы ўжо ў 1/32 фіналу.

Затое зайздросную пільнасць праявілі мытныя службы Кефлавіка. Не, яны не пераўтварылі пашпартны кантроль у бюракратычную працэдуру, а прапусцілі ўсіх гасцей за лічаныя хвіліны, дзе іх ужо чакалі аўтобусы ў напрамку да сталіцы. Проста была затрымана каўбаса, якую мазыране разам з іншымі ўласнымі прадуктамі і поварам везлі ў Ісландыю. Ну чым не еўрапейцы? Не ведаю, што знайшлі ў ёй аэрапартаўскія работнікі, аднак гэты мясапрадукт вымушаны быў чакаць свайго лёсу яшчэ амаль чатыры дні і вылецець на радзіму. Астатнія ж харчы разам з футбольнай дэлегацыяй пасьпяхова адправіліся ў Рэйк'явік. Амаль увесь 40-кіламетровы шлях да яго суправаджаўся незвычайным пейзажам з камянёў вулканічна-тэктанічнага паходжання па абодва бакі вузкай нітачкі дагледжанай аўтастрады. Беларусы ахрысцілі гэтыя мясціны месяцавым пейзажам, пад уражаннем якога і чакалася гульня. Мазыране ўсур'ёз вырашылі падрыхтавацца да сустрэчы і за два дні правесці паўнацэнную акліматызацыю і трэніроўку.



Балельшчыкі МВКЦ.

Назаўтра гаспадары ФК «Рэйк'явік» ласкава прадаставілі арэну 15-тысячнага «Лаўгардалсвалура», на якім праз суткі даў свісток нарвежскі арбітр Свен Чэлброт.

Як ні дзіўна, але амаль увесь казырок футбольнага поля быў запоўнены ісландскімі балельшчыкамі, якія, размахваючы чорна-белымі сцягамі клуба, нешта выкрыквалі ў адрас сваіх любімцаў. Праўда, сярод шуму мясцовых «фанаў» не згубіліся воклічы: «МВКЦ пераможа!» мазырскіх балельшчыкаў, якіх набралася, дзякуючы фінансавай падтрымцы прэзідэнта футбольнага клуба Мікалая Яшчанкі, некалькі дзесяткаў. Дарэчы, за некалькі гадзін да пачатку гульні прэзідэнт разам з мэрам Мазыра і вялікім прыхільнікам гульні ў мяч Іванам Замулкам правялі з групай балельшчыкаў своеасаблівы «інструктаж», сутнасць якога заключалася ў гарачай падтрымцы футбалістаў. А каб больш упэўнена трымацца і выглядаць у вачах ісландцаў цывілізаванымі прыхільнікамі каманды, кожнаму патэнцыяльнаму «фану» МВКЦ былі раздадзены, прычым бясплатна, чырвона-белачорныя сцягі клуба, а таксама ўся неабходная атрыбутыка ў адпаведных колерах: шапачкі, шалікі, значкі.

Як кажуць, узброіліся да зубоў. Пабалець за беларусаў прыбылі нават прадстаўнікі расійскага пасольства ў Рэйк'явіку, а таксама расійскія балельшчыкі з борта гандлёвага судна.

Астатняе заставалася за камандай. Адчуваючы адказнасць за вынік гульні, галоўны трэнер МВКЦ Анатоль Юрэвіч адмовіўся нават ад цікавай аўтобуснай экскурсіі па славутых месцах ісландскай сталіцы.

Пачатак сустрэчы быў не надта выразным. Гаспадары поля без лішніх намаганняў правялі разведку варот праціўніка і мелі некалькі магчымасцей праверыць моц галкіпера мазыран Юрыя Свіркова, які ў дамашняй сустрэчы аказаўся адным з вінаватых у пропуску абодвух мячоў на апошніх хвілінах сустрэчы.

Госці не стушаваліся перад шумнымі паклоннікамі «Рэйк'явіка» і яго высакарослымі іграмі. Праўда, адчуваліся недахват вопыту і вялікая адказнасць за зыход сустрэчы. На галодным пайку быў форвард мазыран Сяргей Яромка. У асноўным на індывідуальныя праходы па флангах разлічваў Аляксандр Кульчы. Гульня гасцей праходзіла ў асноўным на кароткіх пасах, у той час як гаспадары выкарыстоўвалі толькі доўгія перадачы. Тым не менш, настаўнік ісландцаў Лука Косціч не збіраўся фарсіраваць падзеі. Ход гульні і нулі на табло задавальнялі яго. Мазыране ж з усіх сіл імкнуліся забіць гол. У першым тайме, праўда, такіх шанцаў у іх не было.

Пачатак другога тайма, дакладней, 56-я хвіліна, магла стаць шчаслівай для Мазыра. Пасля прарыву ў штрафную пляцоўку ў выдатнай сітуацыі аказаўся Андрэй Скарабагацька. Але ж, знаходзячыся ў лічаных метрах ад варатара Крысціяна Фінбогасана, ён прабіў надзвычай слаба, і мяч аказаўся ў руках галкіпера.

Больш яўных шанцаў госці не мелі. Пад канец сустрэчы яны крыху «падселі», што ўмела скарысталі «вікінгі». Іх шматлікія атакі ў рэшце рэшт увянчаліся поспехам. Зноў жа, як і на мазырскім стадыёне, 89-я хвіліна. І Айнар Даніэльсан дакладна б'е ў далёкі ад Свіркова вугал.

Усё, гэта ўжо канец: паражэнне з прысмакам нічыёй на фоне месяцавага ландшафту. Безумоўна, Анатоль Юрэвіч з трэнерамі яшчэ дзесяткі разоў прааналізуе вынік матча ў Рэйк'явіку і дэбют каманды ў еўракубках у цэлым.

Пазней, перад вяртаннем дамоў, зноў жа праз Нарвегію, але ўжо праз Осла, стала вядома, што праз некалькі гадзін пасля гульні, апоўначы, прэзідэнт МВКЦ Мікалай Яшчанка, мэр горада Іван Замулка павіншавалі ігракоў з дастойным дэбютам. У адзін голас паўтарыўшы, што ў душы недзе спадзяваліся на лепшае, аднак... не ўсё адразу.

Да таго ж гульня, па ацэнках абодвух трэнераў, атрымалася роўнай. Усё вырашылі вопыт і гульнявая практыка. У ісландцаў яна складаецца з 32 гадоў выступленняў на еўрапейскіх арэнах, а ў мазыран — толькі першы год.

А значыць, усё яшчэ наперадзе.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**
**Фота аўтара.**
***Мінск—Гомель—Рэйк'явік.***



Галкіпер мазыран Юрый СВІРКОЎ на выхадзе.

### ВЫНІКІ АСТАТНІХ СУСТРЭЧ РОЗЫГРЫШУ КУБКА КУБКАЎ

ГЛОРЫЯ (Румынія) — Ла-Валета (Мальта) — 2:1 (2:1).

Флямуртары (Албанія) — ХНМЛОН (Славакія) — 0:2 (0:1).

АЕК (Кіпр) — Котайк (Арменія) — 5:0 (0:1).

РУХ (Польшча) — Лансантфрэйд (Уэльс) — 5:0 (1:1).

НІВА (Вінніца, Украіна) — Талін садам (Эстонія) — 1:0 (1:2).

БРАН (Нарвегія) — Шэлбарн (Ірландыя) — 2:1 (3:1).

ЛЕВСКІ (Сафія, Балгарыя) — Алімпія (Славенія) — 1:0 (0:0).

ВАДУЦ (Ліхтэнштэйн) — Раф (Рыга, Латвія) — 1:1 (2:2).

Ус Люксембург (Люксембург) — ВАРТЭКС ВАРАЗДЗІН (Харватыя) — 0:3 (2:1).

Хавнар болтфелак (Фарэрскія астравы) — ДЫНАМА (Батумі, Грузія) — 0:3 (0:6).

СПАРТА (Прага, Чэхія) — Глентаран (Паўночная Ірландыя) — 8:0 (2:1).

Хертс (Шатландыя) — РЭТСТАР (Белград, Югаславія) — 1:1 (1:1) — па пенальці выйгралі югаславы — 5:4.

Хапаэль іроні (Ізраіль) — КОНСТРУКТОРОЛ (Малдавія) — 3:2 (2:1).

МЮПА-47 (Фінляндыя) — Карабах (Азербайджан) — 1:1 (1:0).

Слога Югамагнат (Македонія) — КІСПЕШТ ХОНВЕД (Венгрыя) — 0:1 (0:1).

Карэда ўаўляй (Літва) — СЬЁН (Швейцарыя) — 0:0 (2:4).

**Рэдакцыя газеты выказвае ўдзячнасць прэзідэнту ФК МВКЦ Мікалаю Яшчанку за дапамогу ў арганізацыі гэтага матэрыялу.**

*ВЫСТАЎКІ*

## «МЕДЫЦЫНА-96» — МЕДЫЦЫНЕ БУДУЧАГА

**3—7 верасня ўвага беларускіх медыкаў будзе прыкавана да выставачнага комплексу «Мінскэкспа», дзе пройдзе 4-я міжнародная спецыялізаваная выстаўка «Медыцына-96». Менавіта тут у іх з'явіцца унікальная магчымаць пазнаёміцца з навейшымі распрацоўкамі і тэхнічнымі рашэннямі ў галіне медыцыны.**

Прадукцыі такіх сусветна вядомых фірмаў, як «Філіпс», «Баер», «Сіменс», «Натурпрадукт», «Лома», «Гермед» сёння ў Беларусі не патрэбна рэклама. Акрамя яе, значнае месца на экспазіцыі зоймуць прадстаўнікі нашай рэспублікі, у прыватнасці ВА «Белмедпрэпараты», «БелОМА», «Белмедтэхніка» і многія іншыя. Усяго ж у выстаўцы маюць намер удзельнічаць звыш 100 фірмаў з 17 краін свету.

Спектр яе вельмі шырокі: увазе медыцынскіх работнікаў будуць прадстаўлены медыка-тэхнічнае абсталяванне і сродкі дыягностыкі хворых, стаматалагічнае абсталяванне і лекавыя травы, фармацэўтычная прадукцыя і абсталяванне ўрачэбных кабінетаў.

Пэўную цікавасць выставачная кампазіцыя павінна выклікаць і ў радавых яе наведвальнікаў: акрамя тэхнічных дасягненняў яны змогуць тут азнаёміцца з рэкламна-інфармацыйнай прадукцыяй, якая расказвае аб новых леках і дыетпрадуктах, а таксама з фізіятэрапеўтычнай тэхнікай, прызначанай для выкарыстання ў хатніх умовах.

Прыметнай падзеяй выстаўкі ў гэтым годзе стане ўдзел у ёй прадстаўнікоў Славакіі, самага буйнога экспарцёра медыцынскай тэхнікі ў былы Савецкі Саюз. Такім чынам, сёння ўжо можна з упэўненасцю сказаць, што згубленыя некалі з буйнейшымі пастаўшчыкамі медабсталявання сувязі паступова аднаўляюцца.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*КРЫМІНАЛ*

## СА СЦЯНЫ БУДЫНКА НАРОДНАГА СУДА Ў ГОМЕЛІ ЎКРАЛІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГЕРБ

**Так, менавіта са сцяны будынка Гомельскага народнага суда нейкія «аматары» дзяржаўнай сімволікі ў ноч на 21 жніўня ўхітрыліся сцягнуць Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь.**

Следчыя органы горада знаходзяцца ў глыбокім задуменні: каму і навошта так тэрмінова мог спатрэбіцца гэты сімвал? Губляецца ў здагадках і міліцыя наконт накірунку пошукаў. Паводле некаторых даных, разглядаюцца наступныя версіі: палітычны акт; крадзеж з мэтай нажывы (у гербе больш за 50 кілаграмаў каляровага металу).

**Сяргей ПРОТАС.**

## АБРАЗІЛІ ПАМЯЦЬ ЗАГІНУЎШЫХ

Яшчэ адзін выпадак вандалізму абразіў памяць жыхароў Беларусі, загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны.

У вёсцы Вялікая Ухалода Барысаўскага раёна невядомыя сарвалі з мацаваннем і раскалолі пяць мармуровых пліт з імёнамі жыхароў вёскі, што загінулі ў вайне. Злачынцаў шукаюць.

**Сяргей ПРОТАС.**

## «НАЛЁТЧЫКІ» ПАВАЖАЮЦЬ ЦЕМРУ

**У народзе кажуць: «Калі б ведаў, дзе ўпадзеш, дык саломкі б падаслаў». Вось так і пасажыры поезда «Віцебск—Гродна» ведаць не ведалі, што іх чакае ў дарозе.**

Каля 22 гадзін (самы час для налётаў) на перагоне Прыяміна — Навасады ў час руху поезда на яго быў учынены хуліганскі напад, у выніку якога ў вокнах вагонаў былі разбіты 4 шыбы, а жыхарцы г. Віцебска нанесены лёгкія цялесныя пашкоджанні.

Пацярпеўшай на месцы была аказана медыцынская дапамога, а «налётчыкі», зрабіўшы сваю «чорную» справу, уцяклі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.02 | 20.21 | 14.19 |
| Віцебск – | 5.49 | 20.14 | 14.25 |
| Магілёў – | 5.51 | 20.10 | 14.19 |
| Гомель – | 5.54 | 20.02 | 14.08 |
| Гродна – | 6.20 | 20.33 | 14.13 |
| Брэст – | 6.22 | 20.32 | 14.10 |

**МЕСЯЦ**

Першая квадра
22 жніўня

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Фёдара, Васілія, Сасанны, Максіма, Аляксандра.

К. Баўтарамея-апостала, Юрыя.

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гомелі — 25—27, Віцебску, Мінску, Магілёве — 26—28, Гродне — 27—29, Брэсце — каля 29 градусаў.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі 25-га па паўднёваму ўсходу пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 12—17, 25-га па поўначы — 9—14, удзень — 24—29 градусаў цяпла.

## МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ. СУБОТНЯЯ ТЭМА

# САГА АБ ЛАЗНІ



***«Што ж ён рабіў у суботу? У суботу ён паліў лазню. Усё. Больш нічога. Напальваў лазню, мыўся і пачынаў парыцца. Парыўся, як ненармальны, як паравоз, — па пяць гадзін парыўся! З адпачынкам, вядома, з перакурам... Але ўсё роўна — гэта ж які трэба мець арганізм! Конскі?» (Васіль Шукшын. «Алёша Бесканвойны»).***

Такім чынам, лазня. Фізічна адчуваю, як ў грамадзян аднаго са мною полу салодка заныла ў грудзях. Разумею і падтрымліваю. Далучаюся ўсёй душой і целам.

Жанчына гэтага не зразумее. Для яе лазня — прабачце, не больш чым гігіенічнае мерапрыемства. Для мужчыны лазня — гэта лад жыцця, філасофія, метафізіка, паэзія, гэта, урэшце, свабода ад той жа жанчыны, мужчынскае брацтва і царства, свабода і дэмакратыя ў чыстым (можа, лепш голым?) выглядзе...

Жанчына не можа любіць лазню. Там на нейкі час яе суджаны знікае з-пад кантролю. І ў гэты дзень яму ўсё можна. Ну, амаль што ўсё. Мужчына ператвараецца ў маленькага хлопчыка, праблемы забываюцца, ён усіх любіць і гатовы зразумець кожнага...

Адным словам, лазня ёсць адна з асноўных катэгорый нашай культуры. Ці я перабольшваю?

**І.**

«У суботу ён прачынаўся і адразу ўспамінаў, што сёння — субота. І адразу ў яго распускалася ў душы ціхая радасць. Ён нават тварам святлеў. Ён нават не мыўся, а ішоў адразу ў двор — секчы дровы». (Тут і далей — «Алёша Бесканвойны»).

У гарадскога мужыка крыху іншыя праблемы. Ён, вядома ж, прачынаецца ў суботу з той жа думкай: сёння субота. А значыць — лазня. Праўда, дровы секчы не трэба. Затое неабходна трэсці дываны. Для мяне кананада ў двары з'яўляецца прадвеснікам. І ў душы таксама — ціхая радасць.

Пасля гэтага я таксама іду трэсці дываны...

Самая блізкая лазня — на вуліцы Маскоўскай. Я хаджу туды пяты год запар. Дакладней, езджу за некалькі кіламетраў, Як гавораць, для шалёнага сабакі сем вёрст — не круг.

Не люблю закрытыя сауны. Няхай там і басейн, і абслугоўванне, і чысціня, і малалюднасць. Губляецца дух. Як быццам цябе аднаго прымусілі з'есці кілаграмовы торт. Салодкі, смачны, але пад канец хочацца сунуць два пальцы ў рот.

Тое ж самае — вясковая лазня. Безумоўна, выдатная рэч, але сумнавата. Не хапае шчырай размовы, падколак і г. д. Увогуле, самая лепшая ў маім жыцці лазня была ў старшыні аднаго рыбгаса ў Карэліі, дзе мы былі ў будатрадзе. Проста казка. Абшытая знутры светлай лёгкай дошкай і дух такі, што плакаць хацелася.

Сучасная гарадская лазня прызначана перш за ўсё для абмену думкамі па шэрагу важнейшых праблем сённяшняга жыцця. Мыцца, а тым больш парыцца, там даволі праблематычна. Надта многа народу. А лазняў мала. На маім Паўднёвым Захадзе няма ніводнай. Ёсць нават секс-шоп, а лазні няма.

Так што лазня пачынаецца з чаргі. Вельмі тонкая рэч. Бываюць нават бойкі і скандалы. Пры мне без чаргі спрабавалі прайсці двое цыганоў з малым. Распрануліся ў службовай каморцы і негліжэ рушылі ў аддзяленне. Народ стаў грудзьмі. Цыганам прыйшлося станавіцца ў канец чаргі.

Была і бойка, калі адзін грамадзянін назваў другога казлом, чаму той і пакрыўдзіўся. Раздымаў асабіста. Помню пераконваў іх: «Мужыкі, гэта ж лазня!» Як ні дзіўна, падзейнічала. Верагодна, для іх гэта гучала як «гэта ж царква!»

**2.**

**«У яго была свая навука — як паліць лазню. Напрыклад, дровы ў лазню ішлі толькі бярозавыя: яны даюць пасля сябе ўстойлівы жар... Палены ў каменцы ён клаў, як і ўсе кладуць: два — так, адно — так, а потым зверху. Але там — у той амбразуры, якая ствараецца, — там кладуць звычайна лучыну, паперу, газай яшчэ прызвычаіліся цяпер абліваць, — там Алёша нічога не клаў: тое палена, якое клаў упоперак, ён яго пасярэдзіне яршыў сякерай, і ўсё, і потым гэтыя застругі падпальваў — запальвалася...»**

Так. Вось нарэшце дачакаліся, чарга падышла. Цяпер трэба дзейнічаць хутка. Распрануўся — і ў мыйнае. Венік — у тазік пад кіпень. Калі свежы, можна проста абдаць. Стары неабходна патрымаць.

Цяпер — самому пагрэцца, дачакацца першага поту. Мамачка, а народу ў парылцы... Адзін на адным. Але нічога, справа прывычная. Тым больш, ёсць надзейны спосаб рэзка зменшыць колькасць жадаючых папарыцца. Я станаўлюся ля краніка і пачынаю па-крыху падпускаць пару, чэргамі па два патроны. Хвілін праз пяць мужыкі пачынаюць сыпацца зверху — гарачыня прымушае. Людзі ў лазню ходзяць розныя. Некаторыя нават не ведаюць, з якога канца трымаць венік. Сапраўдных знаўцаў не так і многа. Ім лішняя пара не перашкодзіць — толькі давай. А людзі выпадковыя, вядома, не вытрымліваюць. Што і трэба.

Ну вось, паменела. Можна і парыцца.

На Маскоўскай — каменка, якая лічыцца самай лепшай печкай. Але каб трапіць на першы пар, трэба ўставаць гадзін у сем раніцы — для мяне амаль што подзвіг. Аднак праз дзве-тры гадзіны каменне ўжо залітае, інакш кажучы, ужо астыла і можа даваць толькі сырую пару. Задавальненне — невялікае, праўда, пры ўмелым падпусканні, пару можна стварыць прыстойную.

Прамысловы прагрэс выклікаў да жыцця так званыя тэны. Гэта калі каменне грэецца электрычнасцю. Праўда, гэта для мазахістаў. Гарачыня стаіць страшэнная, але ў паветры не хапае кіслароду — пачынаеш задыхацца. Так што мы лепш па-старому, прымітыўна. Ды яшчэ піва на каменне падкінуць — па парылцы тады паплыве пах свежаспечанага гарачага хлеба. Можна квасу, ці развесці нейкай траўкі тыпу палыну — рай і душа спявае...

Адзіная бывае нязручнасць — пятнічныя мужыкі. Хто ў суботу хмель выганяе. Па-першае, самы надзейны спосаб пасадзіць сэрца. Па-другое, іх час ад часу прыходзіцца ратаваць. Адзін страціў прытомнасць — пацягнулі ў раздзявальню адкачваць. Другі зваліўся зверху і галавой ледзь не разбіў дзверы. Хоць бы яму што — устаў і пайшоў. Моцны мужчына.

Тыдні са два назад назіраў проста незабыўную сцэну. У буфеце на першым паверсе сядзеў абсалютна голы малады чалавек паўднёвага выгляду. Самае асноўнае мужчынскае месца, праўда, было прыкрыта прасцінай. Мужчына піў піва і закусваў прарослай цыбуляй, якую прынёс з сабою. Маладая буфетчыца была вельмі задаволеная. І я яе разумею — не кожны дзень вось так проста пабачыш голага мужыка. Тым больш бясплатна.

**3.**

**«Алёша яшчэ разок закурыў... Паглядзеў на пахмурнае неба, на далёкі гарызонт, на вёску... Ні ў кога лазня яшчэ не палілася. Потым будуць, к вечару, — на скорую руку, абы-як, пых-пых... Будуць глытаць горкі чад і парыцца. Напарыцца не напарыцца — учадзее, прыйдзе, зваліцца на ложак, ледзь жывы — і думае, гэта лазня. Хэх!...»**

Самы хвалюючы момант — гэта калі выходзіш з парылкі ў раздзявальню, адыходзіш і слухаеш размовы, гісторыі, байкі. Народ нетаропка абмяркоўвае падзеі бягучага жыцця — і чаго толькі не пачуеш. Напрыклад, нідзе я не чуў такіх шчырых характарыстык палітыкі дзяржавы і асобных дзяржаўных дзеячаў нашай краіны. Пры гэтым шчодра выкарыстоўваецца ненарматыўная лексіка, якая гучыць у такім асяроддзі натуральна і толькі надае размове дадатковую сакавітасць і выразнасць.

Часам наладжваюцца імправізаваныя канцэрты. Нейкі час на Маскоўскую хадзіў дзядок. Заўсёды крышачку падвыпіўшы, любіў спяваць куплеты з падтэкстам. Зараз не ходзіць. Казалі, памёр. Шкада.

Уласна, раздзявальня ёсць мужчынскі клуб. Француз ідзе ў кафэ і сядзіць там вечар за келіхам віна, брытанец — за пінтай элю, амерыканец — за віскі, немец — за куфлем піва. Наш чалавек выпівае за вуглом бутэльку атруты тыпу «Празрыстай». Кафэ, паб, салун, гастштэт яму замяняе лазня.

Тут ёсць усё, што робіць адпачынак душэўным і паўнацэнным. Хоць многае старонняму чалавеку, тым больш замежніку, можа падацца незразумелым. Дапусцім, ён заўважыў кампанію з амаль дваццаці мужчын, што арганізавалі застолле непасрэдна на балконе лазні. Пакрыху выпіваюць і размаўляюць на розныя тэмы. Уся яго замежная душа пратэстуе — гэта робіцца ў рэстаране. Адкуль ёй ведаць, што рэстаран для нас — тыпу опернага тэатра — такі ж недасягальны, дый непатрэбны. Менталітэт такі, прывыклі ў хмызняках. Там лепш думаецца.

З гэтай нагоды — невялікі прыклад. Неяк у нядзелю іду за кальцавую дарогу, у лес. Кіламетр, два, тры — выходжу на паляну. У далёкім канцы вакол вялікага пня размясціліся чацвёра мужчын. Падыходжу. Мужчыны забіваюць «казла»... Ну як такое растлумачыш не нашаму чалавеку? Па-мойму, бесперспектыўна. Такое можам разумець толькі мы, хто пражыў тут жыццё.

Нам гэта прывычна і нават не здзіўляе. Так і павінна быць.

**4.**

**«Вось за што і любіў Алёша суботу: у суботу ён так многа раздумваў, успамінаў, думаў, як ні ў які іншы дзень. Дык за якія ж такія вялікія каштоўнасці аддаваць вам гэтую суботу? А?..»**

Люблю чытаць у лазні ўсялякія надпісы, шыльды, аб'явы. Невычэрпная скарбніца праяў жыцця.

Скажам, падчас выбараў прэзідэнта ў раздзявальні вісеў перадвыбарны плакат камуніста Новікава. Чаму яго? Чаму менавіта ў лазні? Загадка. Ва ўсякім разе, глядзеўся ён на фоне голых мужыкоў даволі недвухсэнсоўна. Трэба так думаць, што кандыдат сышоў у самую гушчу народнага жыцця?

А вось вісіць спіс паслуг, якія лазня аказвае наведвальнікам. З яго вынікае, што можна нават выклікаць таксі, не кажучы пра заказ гарбаты. У спісе недзе 11 пазіцый, але я дакладна ведаю, што народ карыстаецца толькі дзвюма: уласна мыццё і наведванне буфета. Астатняе — малаактуальнае.

Заўсёды з радасцю разглядваю аб'яву: «Героі Савецкага Саюза, Сацыялістычнай Працы, дэпутаты Вярхоўнага Савета ССР і БССР, кавалеры ордэнаў Славы трох ступеняў, інваліды ВАВ і г. д. прапускаюцца без чаргі.» Чытаю, разважаю і адразу настрой падымаецца. Правільна, крыху абракадабры ў жыцці павінна быць.

Праўда, аднойчы я прымеціў у лазні лідэра прафсаюзаў Бухвостава. Другі раз сустрэў шапачна знаёмага намесніка міністра. Цікава назіраць вядомых людзей, пардон, у іх сапраўдным выглядзе. Намеснік міністра, напрыклад, калі ў парылцы зайшла гарачая размова пра наша кіраўніцтва, вельмі моцна і доказна лаяў яго. Я не ведаю, як ён на рабоце, але ў лазні я назіраў жывога чалавека. Мне нават спадабалася.

Што значыць лазня — ніхто нікога не ведае і ўсе голыя. Можна адчуць сябе самім сабою.

А вось яшчэ аб'явы, кожны раз яны ставяць мяне ў тупік. Напрыклад: «Мыць ногі ў тазах катэгарычна забараняецца!» У нас проста ніхто не звяртае на іх увагі — вісіць і вісіць. А скажам, немец, як бы яму ні тлумачылі, усё роўна не дайшоў бы да сэнсу. Яму і так ясна, што ў тазіку трэба мыць верх, а не ніз. Яго так выхавалі. Нас — крыху інакш. Калі нам нешта забараняюць, то мы абавязкова павінны зрабіць наадварот. Я асабіста ведаў чалавека, які скраў на будоўлі вядро раствору. Натуральна, на падыходзе да дому раствор зацвярдзеў, прыйшлося выкінуць. Думаю, тут справа зусім не ў патрэбнасці, а ў самім факце крадзяжу: я не горшы за іншых.

«Эканомце ваду!» — прама крык душы. Вядома ж, мы робім наадварот, іначай — ваду не зканомім. Навошта яе эканоміць? Яна не ваша — значыць яе як бы няма зусім. Дзіўныя рэчы робіць з псіхалогіяй чалавека сацыялізм...

І ўсё ж лазня ёсць лазня. Астравок свабоды ў даволі шэрым мужчынскім жыцці, напоўненым умоўнасцямі і забаронамі, цяжкай працай, начальствам, сямейнымі абавязкамі, — усім, што хочацца забыць хоць на адзін дзень.

Няхай жыве лазня!

**«Жонка нічога не сказала на гэта, не сказала, што ідзі, маўляў, ці яшчэ што ў гэткім духу, але і іншага чаго — не сказала. А раней, бывала, гаварыла, да лаянкі справа даходзіла: трэба тое зрабіць, трэба гэта зрабіць — не дзень жа цэлы лазню паліць! Алёша і тут не ўступіў на волас: у суботу толькі лазня. Усё. Гары ўсё гарам! Прападзі ўсё пропадам! «Што мне, душу сваю на кавалкі парэзаць?!» — крычаў тады Алёша не сваім голасам...»**

Я ж і кажу. Сапраўды так. Суботу нікому не аддамо.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА**

---

## *Смехатэрапія*

*Малюнкі Леаніда Разладава.*




### З ДУМАК НАПРАКАТ

Некаторыя карані свайго жыцця блытаюць чамусьці з жэньшэнем.

Гісторыя своеасабліва расстаўляе па сваіх месцах: каго ўзвядзе на п'едэстал, каго паставіць да сценкі, а іншых наогул не ставіць ні ў што.

З дараваных прыродай свабод заўсёды існуе свабода стаць жабраком.

Логіка сучаснага жыцця — гэта адсутнасць усякай логікі.

Куміры прыходзяць і адыходзяць, а паклоннікі застаюцца.

Правіла па тэхніцы бяспекі для аматараў здабываць навіны праз замочную шчыліну:

«Не стой пад дзвярамі, бо атрымаеш па лбе!»

Дзе ж быць палёгцы ў жыцці, калі нават у лёгкай музыцы ўсё часцей чуюцца металічныя ноткі.

Не выключана, што запаленне радужнай абалонкі вока можна падхапіць ад ружовага ўяўлення аб жыцці.

Калі ўсё застаецца людзям, то навошта іх абдзіраць тады як ліпку?

**Мікола КАМАРОЎ.**

### ВУЗЕЛЬЧЫК НА ПАМЯЦЬ

Народ свой добра ведаць трэба
І не рабіць з ім, што хачу,
Не стане па кішэні хлеба,
Дык будзе ўкрасці па плячу
Бо, як галеча запануе,
Яна ўсё крадзе, ломіць, б'е,
Яна законаў не шануе
І нельга што — не прызнае.

### БЯДА НЕ З МОВАЙ

Бяда не з мовай, а часцей
З тым языком, што без касцей.

### КАЛІ ХОЧАМ

Калі хочам людзьмі звацца,
Трэба ж імі заставацца.

**Мікола КАМАРОЎ.**



Іван КЛІМЕНКА:

# «МАСТАЦТВА — ДРАМА І ГУЛЬНЯ...»



**«Мастак імкнецца спасцігнуць сутнасць існуючага свету праз творчасць, у якой выразна адчуваецца гармонія сэрца і розуму. Адвечныя пытанні: як быў створаны свет, якую ролю ў гэтым працэсе адыгрывае чалавек-творца — адказ на ўсё гэта мастак намагаецца знайсці ў кнізе кніг Бібліі», — так характарызуе творчы рух, творчы рост беларускага мастака Івана Кліменкі мастацтвазнаўца Ларыса Бортнік.**

**Нядаўняя персанальная выстаўка (адкрылася яна 15 жніўня ў мастацкім цэнтры «Жыльбел» у Траецкім прадмесці) і падштурхнула да размовы з Іванам Кліменкам. Пачынаючы з 1980 года ён удзельнічае ў міжнародных выстаўках (у Даніі, Швецыі, Чэхіі). У 1991-м — персанальная выстаўка ў Аўстрыі, у Інсбруку. Апошнія гады Іван Кліменка штогод праводзіць выстаўкі ў Мінску (пазалетась — у тэатры «Вольная сцэна», летась — у галерэі «Медэя»). Акрамя станковага жывапісу Іван Кліменка займаецца манументальнымі работамі (энкаўстыка ў бібліятэцы Беларускай акадэміі народнай гаспадаркі, у Палацы культуры ў Турцы, у Доме Саветаў у Шчучыне, мазаіка ў Віцебску). Творчая манера актыўнага, энергічнага сучаснага мастака далёкая ад традыцыйнага жывапісу.**

**— Ваш почырк жывапісца, ваша імкненне пераасэнсоўваць рэчаіснасць, натуру па-свойму, забываючыся на пэўныя абавязкі дакладна перадаваць убачанае, — чым гэта выклікана? Само па сабе ўсё прыйшло, ці быў выразны штуршок, ці былі настаўнікі?**

— **В**ЕДАЕЦЕ, абавязкі хіба ж заключаюцца ў тым, што мастак павінен ствараць маляўнічы фотаздымак?.. Перш-наперш, мастацтва, творчасць для мяне не толькі жывапіс. Для выяўлення, самавызначэння важнае, блізкае месца займае літаратура. Згадайма дваццатыя—трыццатыя гады нашага стагоддзя. Згадайма «ВХУТЕМАС», Кандзінскага, яго школу, накірунак «паралелізму». Пошук чацвёртага вымярэння — вось што мяне хвалюе. Я шмат чытаю філосафаў. Я адкрываю для сябе шукальнікаў. Мне цікавы Гётэ — паэт (вялікі, заўважце, паэт), які ўсур'ёз цікавіўся тым, як колер уздзейнічае на яго чалавека, на яго свядомасць.

Вы пытаецеся пра натуральнае, ілюстрацыйнае, фатаграфічнае адлюстраванне... А я тым часам хацеў бы вярнуць вас да Бібліі. Што кіравала творцам — тое, што ён бачыў, альбо тое, што ён адчуваў? Адказ дае Біблія: «Прамудрасць была мастачкай у Бога». Бачыце, размова ў гэтай ісціне зусім не пра звыклае, а пра разумовае, унутранае асэнсаванне прадмета, з'явы. Бога часта называюць мастаком: ён ствараў розумам.

Маё творчае крэда ў наступным: ствараючы карціны, мастак працуе не толькі вокам, а творыць унутранымі пачуццямі, працуе і розумам. Зрок — гэта ж толькі часцінка...

**— Але ёсць жа ў вас сродкі, ёсць зброя...**

— Сродкам выяўлення лічу колер. Як для музыкі — ноты. Для мастака — колер альбо краска...

**— Колер альбо краскі?**

— Усё ж краскі, як гаварыў некалі Шагал. Як гавораць на Беларусі. Краскі, красачкі... Краскі — кветкі. Калі мая краска гучыць з палотнішча і знаходзіць прамы шлях да гледача — гэта сапраўднае шчасце. Колеры сыходзяць з карціны, імкнуцца патрапіць у чужыя і дарагія сэрцы. І тут ужо, на мяжы ўспрымання і ўзаемаразумення, зусім не важна, у якой сферы працуе мастак — у традыцыйным жывапісе, у авангардызме ці ў нейкай іншай.

**— Значыць, вы супраць развешвання мастацтвазнаўчых ярлыкоў на плён вашых пошукаў?**

— Я не супраць, але мне ўсё роўна. Працуючы, каб выказацца, я арыентуюся на дыялог з гледачом...

**— А ці не здаецца вам, што, імкнучыся засяродзіцца ў сваіх пошуках, спалучаючы з дапамогай красак самыя розныя галіны мастацтва на адным палотнішчы, вы ўсё ж сутыкаецеся з неразуменнем? Асабліва — з неразуменнем у стасунках з больш шырокім гледачом...**

— Мяне разумеюць. І што дзіўна, часцей пра сутнаснае, галоўнае ў межах палатна даводзіцца гутарыць з гледачом, здавалася б, непадрыхтаваным. На выстаўцы да мяне падыходзяць незнаёмыя людзі, проста аматары, скажам так. І раптоўна думкі нашы здаюцца падобнымі. Як, чаму гэта адбываецца? Я не магу растлумачыць, але мае думкі знаходзяць адрас. Адбываецца працэс уздзеяння колерам. Прыгадваю такую размову, калі раптам ці не адразу некалькі чалавек падзяліліся адным і ты ж а ўражаннем: «Нам здаецца, што ля карціны мы чуем блакітны гук...» Як бачыце, падабраныя разам «краскі», вырасшыя на глебе аднае думкі, выклікаюць даволі канкрэтныя, аднолькавыя музычныя і колеравыя ўспрыманні.

**— Дарэчы, Іван, што ёсць для вас мастацтва? Выкладзіце сваю ўласную, асабіста вамі вымучаную дэфініцыю мастацтва.**

— Мастацтва гэта драма і разам з тым, калі хочаце, гульня. Мастацтва — гэта зусім не аптымізм, але і не трагедыя. Словам, мастацтва — само жыццё. Мо хіба толькі ў найбольш выразных яго праявах.

**— Спрабуючы высветліць нешта пра настаўнікаў вашых, я ўсё ж не змог дабрацца да ісціны. Хіба што толькі імя Кандзінскага...**

— Дарэмна вы так беспадстаўна мяне абвінавачваеце... Усё ж настаўніцтва трэба разумець шырэй. Разуменне школы тоеснае з разуменнем усяго комплексу духоўнага развіцця. Я ж гаварыў пра паралелізм. Жывапіс і паэзія, філасофія і музыка — вось школа, вось энергетычны рухавік.

А калі вяртацца да Кандзінскага, то і ён жа для мяне нават не проста настаўнік у валоданні колерам, краскамі. Кандзінскі — гэта яшчэ і філосаф. Прачытайце яго працу «Пра духоўнасць у мастацтве» — і вы многае адкрыеце для сябе. Між іншым, амерыканскі прэзідэнт, будучы ў Расіі, заўважыў, што ў першую чаргу яна дала свету двух геніяў — Рахманінава і Кандзінскага.

**— З настаўнікамі, будзем лічыць, разабраліся. А вось вучні... Ці ёсць у вас вучні?**

— Спецыяльна я нідзе не выкладаю. Але, як вы бачылі на выстаўцы, побач з маімі карцінамі выстаўлены работы дачкі — Ганны Кліменка, навучэнкі Беларускага мастацкага ліцэя. Але ж і для яе не хацеў бы быць мастаком-настаўнікам. Адна толькі настаўніцкая роля мне належыць — вучу Ганну смелым адносінам да колеру. Вось і ўсё. Астатняму вучуся разам з дачкою.

**— Сучасная творчая моладзь... Яна будзе больш цікавай, чым ваша мастакоўскае пакаленне?**

— Часам, асабліва на вуліцы, развагі пра моладзь выклікаюць у мяне ўпадніцкі, пахмурны настрой. Моладзь нічым не займаецца. Масавая культура прынесла ў грамадства процьму бруду. Разбурана дзяржаўная, грамадская сістэма выхавання моладзі. Але ж, як ні дзіўна, адбываецца рух у два бакі. Большае і мастакоў. Творчасць хвалюе юнакоў і дзяўчат. Значыць, мастацтва не згубіцца, не знікне мастацкая, духоўная мова зносінаў.

**— І я таксама разам з вамі веру, што не знікне. Але ж шкада, што губляецца сярэдзінка. Выразна паменела спажыўцоў мастацтва. І тут ужо, пасля разбурэнняў, духоўнай працы — на вякі.**

— А жывапіс — гаючая крыніца. Заўважце, адкрыйце на палотнішчах прыгажосць — і вы адчуеце прыліў стваральных сіл, вы ў большай ступені адчуеце веру.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

**Аўтарскае пасляслоўе.** Маё асабістае адкрыццё мастака Івана Кліменкі адбылося дзякуючы мастацкай галерэі «Жыльбел». Стварылі яе людзі неардынарныя -- здольныя працаваць, зарабляць грошы і з павагай і любоўю ставіцца да жывапісу, спрыяць яго развіццю на Беларусі. У адным з бліжэйшых нумароў «Звязды» -- сустрэча з фундатарамі галерэі «Жыльбел».

*СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ*

# ЗОРКА ПА ІМЕНІ МЕЛАДЗЕ

**Яго «зорка» ўзышла імгненна і «заззяла» вельмі яркім і роўным святлом. Абсалютна быццам бы ніадкуль з'явіўся такі прафесіянальны спявак з прыгожым моцным голасам і непрымітыўнымі песнямі. Яго альбом і дагэтуль на першых месцах у хіт-парадах. А самы першы раз Валерый Меладзе з'явіўся на вочы шырокай публіцы ў тэлевізійнай праграме «Калядныя сустрэчы Алы Пугачовай. Вось так, адразу — і разам з усімі суперзоркамі Валерый Меладзе праспяваў песню «Лімба».**

**Перад канцэртам Валерыя Меладзе крыху адчуваецца насцярожанасць — як будзе выглядаць, працаваць на сцэне гэты артыст, які, здавалася б, гэткі ж «плаўны», як і яго песні і кліпы, да таго ж такі рамантычны голас. Але Меладзе — нездарма Меладзе, грузінскі тэмперамент нікуды не знік. На сцэне Валерый не толькі спявае, але і працуе канферансье, адказвае на запіскі, смешыць публіку, разыгрывае свае кампакты і касеты ў якасці прызоў тым, хто здолее хоць прыблізна паўтарыць тэму яго так і не дапісанай дысертацыі. Толькі-толькі паклоннікі Валерыя Меладзе пачынаюць даведвацца пра яго мінулае і цяперашняе жыццё, зусім нядаўна, акрамя песень, пра яго нічога не было вядома. Думаю, сёння мы крыху ліквідуем гэты недахоп. А біяграфія ў Валерыя Меладзе на самай справе нечаканая для цяперашніх расійскіх зорак, якія з'яўляюцца пачкамі і якія падчас з цяжкасцю нават рот пад фанаграму адкрываюць, не тое што спяваюць. Ужо ў сталым узросце Валерый Меладзе зрабіў канчатковы выбар паміж навукай і песняй, гэты момант быў не так даўно. Поспех Валерыя — у многім ад песень яго роднага брата Канстанціна, які піша ўсе песні, іх аранжыруе і грае ў групе «Місцікана», з якой выступае Валерый. Нарадзіліся браты Меладзе ў Батумі, жылі на Украіне, цяпер — масквічы. Канстанцін таксама ў музыку прыйшоў з тэхнікі, ён інжынер. Што яшчэ адметнае — нетрадыцыйныя для «папсы» песні і — моцны голас, які апошнім часам з'яўляецца так рэдка, усё больш на эстрадзе робяць стаўку на стыль, імідж, рытм, аранжыроўку, губляючы асобу артыста. А Валерый Меладзе, дарэчы, ніякага іміджа сабе не рабіў і на сцэне выступае так просценька апрануты, без усякай тэатральнасці. І да цяперашняга часу бадай што самай папулярнай песняй у слухачоў з'яўляецца песня «Сэра». Дарэчы, чамусьці многія паклонніцы Валерыя Меладзе цікавіліся, ці была ў яго жыцці цыганка. Не, не было. А песню напісаў брат Канстанцін, у яго і трэба пытацца.**

**У жыцці Валерый Меладзе гэткі ж тэмпераментны, хуткі, як і на сцэне. Дарэчы, у адрозненне ад Канстанціна, які абсалютна негаваркі, сур'ёзны, спакойны.**

**— Я**К МНЕ ЎЯЎЛЯЕЦЦА, Вы сталі папулярным, вядомасць набылі даволі хутка, не ведаю, ці лёгка, але хутка, вось як бы раптам. Гэта правільнае ўражанне?**

Увогуле так, усё гэта адбылося даволі хутка, калі параўноўваць з тым, колькі часу праводзілася рэкламная кампанія многіх з нашых калег, але, паверце мне, гэта было не так лёгка. Чым хутчэй, тым складаней.

**— Вы даўно перасталі сумяшчаць навуковую дзейнасць і творчую.**

**Валерый:** Так. Доўгі час я сумяшчаў, і быў момант, калі трэба было выбіраць. Іншы раз у жыцці ёсць сэнс проста пачакаць, куды выведзе жыццё, і жыццё вывела на тое, што мы ўсё ж спыніліся на музыцы.

**— Ваш брат паўплываў на выбар таго, што Вы сталі спяваць, а не займацца навукай, ці гэта Вы самі так вырашылі?**

**Валерый:** Так, натуральна, паўплываў, таму што, па-першае, ён мой старэйшы брат, ён для мяне з'яўляецца вялікім аўтарытэтам, а па-другое, мне вельмі падабаецца і вельмі блізкая тая музыка, якую ён робіць, і гэта здорава, што мы разам усім гэтым займаемся.

**— Вашы песні даволі спакойныя, і складваецца ўражанне, што Вы чалавек вельмі спакойны, ураўнаважаны, вось на канцэрце Вы крыху іншы, па-мойму, чым у песні?**

**Валерый:** У жыцці я такі ж як і на сцэне, як я цяпер перад вамі, магчыма, што так хутка адбыўся ўздым, таму што мы не шукалі якіх-небудзь сінтэтычных вобразаў, ну вось проста з'яўляемся самімі сабой на сцэне, і нам лёгка працаваць, і лёгка знаходзіць агульную мову з гледачом.

**— Скажыце, а ў Вас голас — ён як бы ўжо ад Бога, ад нараджэння. Вы яго ставілі?**

**Валерый:** Ну, вядома, аснова была, таму што калі б не было асновы, нічога не атрымалася б, колькі б я ні спрабаваў чагосьці дабіцца ў жыцці. Так, была аснова, і плюс яшчэ работа, і, вядома, у першую чаргу тое, што Косця патрабаваў ад мяне пастаянна таго, чаго я не мог на гэты момант, і такім чынам адбываўся нейкі рух наперад.

**— А чаму Вы так доўга сумняваліся, што Вы павінны спяваць?**

**Валерый:** Сумненняў не было ніякіх, проста сумненні былі наконт таго, калі ж усю гэту справу перавесці на прафесіянальную аснову. Акрамя таго, не сакрэт, што ўсё павінна прыносіць у жыцці не толькі маральнае задавальненне, але і ў рэшце рэшт даваць нейкія сродкі да існавання. Быў даволі складаны перыяд у нас, калі такіх сродкаў да існавання практычна не было, не давала ні навука, ні музыка, ну ды аб гэтым перыядзе проста не хочацца гаварыць. Кажу гэта каб не склалася ўражанне, што нам усё так лёгка далося.

Пачыналі мы ў інстытуце, у мастацкай самадзейнасці.

Мяне ніхто не браў за руку і не выводзіў. На самай справе гэта плённая работа, гэта мара, у якую мы верылі і якая ажыццявілася, дзякуючы многім людзям, але якія, натуральна, з гэтага атрымліваюць даволі нядрэнны куш. Гэта не значыць, што проста так, з імкненнем да сцэны, не прыйшоў чалавек, а добры дзядзька яму дапамог. Такога не было.

Ёсць людзі, якія аб сваёй папулярнасці мяркуюць па колькасці «эфіраў» на тэлевізійным экране, а я магу меркаваць аб нашай папулярнасці па паўнаце залаў і па колькасці канцэртаў. У нас практычна 40 канцэртаў за месяц, можаце паверыць, прычым пры поўных аншлагах, такіх не дае амаль ніхто. Ну вось мяркуючы па гэтаму, мы можам меркаваць, што, відаць, папулярнасць да нас усё ж такі прыйшла.

**— У Вашым жыцці, ведаю, было некалькі гарадоў: Батумі, Нікалаеў, цяпер Масква, можа, яшчэ нейкія былі. Усё ж кім Вы цяпер сябе ў першую чаргу лічыце, жыхаром Масквы?**

**Валерый:** Шкада, у мяне цяпер перад намі не ляжыць план нашых канцэртаў, таму што цяпер ужо ў нашым жыцці не толькі Батумі, Нікалаеў, Масква і гэтак далей, а яшчэ дзесяткі гарадоў. Так, кожны горад ужо, вядома, прыўнёс у лёс, і не толькі ў лёс, але і ў характар, і ў стан душы вялікі ўклад, вельмі моцна паўплываў. Ну, цяпер я знаходжуся ў Маскве, мне дастаткова камфортна там, але не ведаю, ці хацеў бы я там затрымацца надоўга, ці не.

**— Вас маскоўская тусоўка зорак прыняла ўжо, Вы сталі вось такім жа прызнаным?**

**Валерый:** Вы ведаеце, у нас склаліся вельмі добрыя ўражанні яшчэ да таго, як наогул мы сталі вядомымі. У нас цудоўныя адносіны складваюцца з усімі. Але мы асабліва не лезем у нейкія тусоўкі, мы не спрабуем быць з кімсьці побач. Добрыя адносіны, сяброўскія, нармальныя, але мы не тусуемся. Вы ведаеце, вельмі многія рэчы ў жыцці адбыліся абсалютна выпадкова, і дзякуючы выпадковасці вось мы з Косцем заняліся музыкай: каб не сустрэлі ў нейкі момант і ў нейкім месцы зямнога шара свайго таварыша, які ішоў на рэпетыцыю інстытуцкага ансамбля, мы маглі б наогул гэтым родам дзейнасці не заняцца, гэта значыць мы маглі б не цяпер быць музыкантамі.

**— А ў дзяцінстве ў вас таксама былі агульныя гульні? Што слухалі тады?**

**Канстанцін:** Паэзіяй я з дзяцінства захапляўся, потым, праўда, я гэта захапленне кінуў, ужо да сталых гадоў, але дзіцячая аснова засталася ў мяне да гэтага часу. У прынцыпе, я адтуль чэрпаю ўсе тэмы. Музыка прыходзіць лёгка, а вось тэксты — складаней, я іх звычайна доўга пішу.

**Валерый:** Якім я быў у дзяцінстве? Вы ведаеце, магчыма, што быў перыяд, калі я вельмі далёка адышоў ад дзяцінства, а на сённяшні дзень увогуле я магу быць натуральным, і, напэўна, нейкія дзіцячыя рысы зноў вярнуліся. Асабіста мне задавальненне прыносіць вельмі многае і зносіны з людзьмі, я люблю бываць на прыродзе, я люблю дождж, я люблю восеньскі час. З заняткаў — водныя віды спорту.

Я ваджу дрэнна, Косця амаль не водзіць, я на веласіпедзе нармальна езджу. Нядаўна навучыўся.

Вы ведаеце, хоць я ў дзяцінстве і закончыў музычную школу, але ніколі не падыходзіў да раяля і не спрабаваў вызначыць, наколькі ў мяне вялікі дыяпазон, хоць многія з нашых артыстаў вельмі хваляцца тым, што вось я магу ўзяць 3 актавы, 4, чорт яго ведае, колькі магу ўзяць я. Пакуль што бяру ўсё, што патрэбна.

**— Сёння часта ўспыхваюць «зоркі»-аднадзёнкі. На чым спадзяецеся пратрымацца вы?**

**Валерый:** Мы не аднадзёнкі, таму што мы да гэтага ішлі даволі складана. І я думаю, што наша музыка сама па сабе гаворыць аб тым, што мы не аднадзёнкі. Гэта не нейкая даніна модзе, гэта музыка, якая грунтуецца на вечных, мне здаецца, каштоўнасцях. Гэта мелодыя, добрая гармонія і дастаткова прафесіянальнае выкананне.

**— Добрая грузінская традыцыя — тосты. Ці ёсць у вас любімы?**

**Валерый:** Вось былі здымкі перадачы «Маё кіно» з Віктарам Мярэжкам, і так здарылася, што мы з ім знайшлі агульную мову вельмі хутка, і ён расказаў мне грузінскі тост. Гэты тост вельмі доўгі. Тэма такая: едзе грузін па дарозе, перабягае дарогу жаба, ну, ён хоча на яе наступіць, а жаба просіць, каб не наступаў, а ўзяў яе і падвёз. У рэшце рэшт яна абнаглела да таго, што прымусіла яго пакласці сябе ў яго ложак дома і легчы побач. І тут жаба ператвараецца ў прыгожую жанчыну, прыходзіць жонка, пытаецца — хто гэта? А ён гаворыць — гэта жаба. Ну, і жонка яму паверыла. Дык вып'ем за давер. Вось такі тост расказаў мне Віктар Мярэжка, напэўна, вось гэты тост і з'яўляецца цяпер любімым.

**— Ці ёсць у вас самы верны сябар, акрамя брата?**

**Валерый:** Калі б у мяне быў сабака. Ён быў бы маім самым адданым сябрам, але ў мяне сабакі няма, а ёсць кошка. Хіба яны сябрамі бываюць?

**Ларыса ЦІМОШЫК. Надзея КУДРЭЙКА.**

# В. Чарнамырдзін назваў новых міністраў

Новы расійскі ўрад сабраўся ў поўным саставе. Толькі да апошняй гадзіны ўсё ніяк не маглі вырашыць, ці пакінуць на пасадзе ранейшага міністра культуры — Яўгенія Сідарава, ці зацвердзіць новага. Пашанцавала Сідараву, бо ў яго падтрымку дружна выступілі ўсе масцітыя дзеячы культуры Расіі, паслаўшы петыцыю Б. Ельцыну. Новы начальнік прыйшоў замест Шафраніка — Пётр Радзівонаў — у міністэрства паліва і энергетыкі. Аб новых прызначэнцах больш падрабязна стала вядома на прэс-канферэнцыі, якую даў, выйшаўшы да прэсы ў новым рангу намесніка старшыні ўрада, Аляксандр Ліўшыц.

Сёння самы большы галаўны боль, як адзначыў А. Ліўшыц, даходная частка бюджэту. Урад прыняў тэрміновыя меры па актывізацыі паступлення даходаў ў казну. З гэтай мэтай адменена адтэрміноўка па падатках і іншых абавязковых плацяжах, будзе ўстаноўлены строгі кантроль за паступленнем падаткаў з буйных прадпрыемстваў, распрацоўваецца сістэма мераў па павышэнню ўзроўню збору акцызаў на алкагольную і тытунёвую прадукцыю. Адным словам, аб'яўлены падатковы аўрал на ўсю Расію. Хто ж пацягне перагружаны расійскі воз? У новай камандзе шмат невядомых імён. Першымі намеснікамі старшыні ўрада нечакана сталі Аляксей Бальшакоў і Уладзімір Патанін. Апошні — салідны банкір, які зрабіў кар'еру далёка ад Цэнтрабанка Расіі. Аляксея Бальшакова даўно ведаюць у Беларусі, ён апошні час актыўна прабіваў ідэі інтэграцыі эканомік Беларусі і Расіі, не раз сустракаўся з беларускім кіраўнікамі і вядомымі спецыялістамі розных галін. Аляксей Бальшакоў — прафесіянал высокага класа. Гэта ён нядаўна сказаў журналістам, што Расія па-ранейшаму ў галіне знешнеэканамічнага супрацоўніцтва будзе арыентавацца на ўмацаванне адносінаў з краінамі СНГ. І ў першую чаргу з Рэспублікай Беларусь.

Для многіх з'явілася нечаканым прызначэнне на пасаду міністра па супрацоўніцтву з дзяржавамі СНД члена фракцыі КПР А. Тулеева.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

# Масква ўшаноўвае герояў з Казані

У пачатку ліпеня мінулага года паветраны знішчальнік ісламскага руху «Талібан» прымусіў сесці на аэрадром у Кандагары экіпаж самалёта ІЛ-76 з ваенным грузам на борце, які належаў татарскай авіякампаніі «Аэрастан». Як паведамілі тады замежныя і расійскія інфармацыйныя агенцтвы, паветраны лайнер вёз для ваеннага ведамства афганскага ўрада Рабані 30 тон ваеннага грузу -- патроны для аўтаматаў Калашнікава. Па міжнародных правілах, як выявілася, гандлёвая аперацыя была законнай. Экіпаж у кантрабандзе ніхто не абвінавачваў. Але каманда паветранага карабля была арыштавана і пад канвоем адпраўлена ў часовую турму. Там расійскія лётчыкі правялі год і 14 дзён. І раптам, як гром сярод яснага неба -- паведамленне, што экіпаж карабля, абяззброіўшы ахову талібаў на ваенным аэрадроме, уцёк на ўласным самалёце на тэрыторыю Арабскіх Эміратаў. Б. Ельцын тэрмінова паслаў свайго прадстаўніка Ігнаценку дамаўляцца з мясцовымі ўладамі адпусціць дамоў былых вязняў афганскіх апазіцыянераў. І вось учора шчаслівы фініш па вызваленню з палону дзякуючы асабістай мужнасці экіпажа адбыўся ў Маскве. Указам прэзідэнта Расіі Уладзіміру Шарпатаву і Газімуру Хайруліну прысвоена званне Героя Расійскай Федэрацыі. Астатнія члены экіпажа ўзнагароджаны ордэнамі.

Адзін з новых расійскіх ардэнаносцаў, даведаўшыся, што я з беларускай газеты, папрасіў перадаць прывітанне сябру па Тамбоўскаму авіяцыйнаму вучылішчу Уладзіміру Янушкевічу, з якім Асхат Аббязаў не бачыўся гадоў 15. «Але, знаходзячыся ў палоне, я не раз успамінаў свайго сябра Валодзю, які родам з Гродзенскай вобласці Бераставіцкага раёна, вёска Грыцэвічы. Апошнім часам ён працаваў у Гомелі. Перадайце, што ў мяне дзве дачкі, жыву ў Казані. Мой тэлефон 75-75-50. Запрашаем у госці. Вельмі хацелася б сустрэцца з сябрамі па вучобе. Як яны жывуць, якія поспехі?» Павіншаваўшы ардэнаносца, я паабяцаў выканаць яго просьбу.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

*24 ЖНІЎНЯ — 5 ГАДОЎ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ УКРАІНЫ*

# Шляхам згоды, дэмакратыі і сацыяльнага прагрэсу

Незалежная ўкраінская дзяржава сцвердзілася. Рэальна здзейснілася спрадвечная мара не аднаго пакалення нашых продкаў. Наша краіна прайшла пункт гістарычнага адліку: незалежнасць набыла незваротны характар, а з прыняццем Канстытуцыі статус незалежнасці атрымаў канстытуцыйнае замацаванне. Украіна ўваходзіць у новы этап будаўніцтва дзяржавы. Ён заснаваны на прынцыпах дэмакратыі, сацыяльнай згоды, прававой талерантнасці, салідарнасці і самага шырокага міжнароднага супрацоўніцтва.

З гэтай жа мэтай ужо закладзены асновы самастойнай палітыкі, дзяржаўнага будаўніцтва. Пачалося ажыццяўленне прапанаванай Прэзідэнтам Украіны Л. Д. Кучмам праграмы радыкальных эканамічных рэформаў. Украінская дзяржава паступова ўваходзіць у абноўленую структуру міжнародных адносінаў. Складваецца новы тып адносінаў з Расіяй, іншымі краінамі СНД. А галоўнае — павялічыліся шэрагі прыхільнікаў нацыянальнай ідэі. Надзвычай важна, што пяцігадовая гісторыя Украіны не азмрочана сацыяльнымі выбухамі.

Свята святам, але адначасова будуць атрыманы і пэўныя ўрокі. Перш за ўсё, будзе навукова прапрацавана пытанне сучаснага разумення незалежнасці; менавіта па прычыне разнабою ў поглядах на яго адбылася затрымка на старце, якая парадзіла нямала праблем, найгалоўнейшая з якіх — прабуксоўка рэформаў.

Па-другое, не было поўнай дакладнасці, якая ідэалогія павінна быць у нашай дзяржаве, тут таксама шмат коп'яў зламана. Поўную яснасць цяпер уносіць артыкул 15 Канстытуцыі Украіны, дзе запісана, што ў нашай дзяржаве няма і не павінна быць якой-небудзь адной пануючай ідэалогіі.

Па-трэцяе, падводзячы вынікі, безумоўна, будзе зроблены самы пільны аналіз эканамічных працэсаў у нашым грамадстве, удакладнены перспектывы эканамічнага развіцця, накірунку знешнепалітычнага курсу ўкраінскай дзяржавы. Будуць асэнсаваны працэсы, якія адбываюцца ў прававым станаўленні нашай дзяржавы, канкрэтызаваны праблемы ўлады і адказнасці, зроблены акцэнт на духоўным развіцці ўкраінскага грамадства.

Згодна з прынятай Канстытуцыяй, Украіна з'яўляецца суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай, сацыяльнай, прававой і унітарнай дзяржавай. На Украіне існуе адзінае грамадзянства. Дзяржаўным сцягам Украіны зацвярджаецца сіне-жоўты сцяг. Дзяржаўным гербам — знак княжацкай дзяржавы Уладзіміра Вялікага — Трызубец. Дзяржаўнай мовай на Украіне з'яўляецца ўкраінская мова. Адначасова гарантуецца свабоднае развіццё рускай і іншых нацыянальных моў, якімі карыстаюцца грамадзяне Украіны.

Канстытуцыя гарантуе грамадзянам права прыватнай уласнасці, у тым ліку права ўласнасці на зямлю.

Замацаваны падзел адказнасці галін улады. Украінскі парламент, які, згодна з Канстытуцыяй, завецца «Вярхоўнай Радай», складаецца з 450 дэпутатаў. Асноўнай функцыяй парламента з'яўляецца прыняцце законаў. Прэзідэнт Украіны, згодна з Канстытуцыяй, з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, гарантам суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці і захавання Канстытуцыі Украіны. Прэзідэнт выбіраецца на 5-гадовы тэрмін. Кабінет Міністраў Украіны з'яўляецца вышэйшым органам у сістэме органаў выканаўчай улады.

Канстытуцыяй прадугледжана існаванне Канстытуцыйнага суда, у які ўваходзяць 18 суддзяў — па 6 ад парламента, прэзідэнта і з'езда суддзяў Украіны.

У канчатковы тэкст Канстытуцыі ўключаны раздзел аб Аўтаномнай Рэспубліцы Крым, якая, згодна з дакументам, мае сваю Канстытуцыю. Канстытуцыя Рэспублікі Крым прымаецца Вярхоўным Саветам Крыма і зацвярджаецца звычайнай большасцю ад канстытуцыйнага склада Вярхоўнай Рады Украіны.

Урад Украіны нязменна зыходзіць з рэальнасці, па якой Крым з'яўляецца тэрыторыяй Украіны, і што Расія і Украіна не маюць адна да адной тэрытарыяльных прэтэнзій.

Святкуючы пяцігоддзе незалежнай Украіны, мы з задавальненнем адзначаем, што ў свеце ўсё большую падтрымку атрымлівае мэтанакіраваная і ўзважаная знешняя палітыка Украіны. Сфарміраваны стабільны і прадказальны знешнепалітычны курс як дэмакратычнай пазаблокавай краіны, якая паслядоўна выконвае ўзятыя абавязацельствы. Усё мацней зацвярджаецца імідж Украіны ў свеце як надзейнага і прадказальнага партнёра, які пачынае іграць стабілізуючую ролю ў рэгіёне.

Інтэграцыя ў Еўропу — наш асэнсаваны і стратэгічны выбар. Адначасова мы выступаем за самае актыўнае развіццё інтэграцыйных працэсаў у рамках СНД, якія б грунтаваліся на аснове ўзаемнай выгады, раўнапраўя, без якіх-небудзь абмежаванняў для ўдзельнікаў.

На Украіне з поўным разуменнем і павагай адносяцца да палітычнага выбару Беларусі. Важна адзначыць, што практычна адначасова прэзідэнты нашых краін выступілі за стварэнне бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

Нягледзячы на даволі складаную эканамічную сітуацыю на Украіне, у першай палове бягучага года акрэсліліся пазітыўныя зрухі ў эканоміцы краіны. Значныя поспехі ў сферы прыватызацыі, лібералізацыі цэн і знешнеэканамічнай дзейнасці.

Эканоміка і рынак Украіны становяцца ўсё больш адкрытымі для інвестыцый і сумеснай прадпрымальніцкай дзейнасці ва ўсіх яе формах. За першае паўгоддзе нерэзідэнтамі ў эканоміку Украіны інвесціравана 1,1 млрд. дол. Чакаецца, што да канца года аб'ём інвестыцый дасягне 2,0 млн. дол.

Завершаны працэс малой прыватызацыі. За апошнія тры месяцы ўзровень інфляцыі не перавышаў 1 працэнта. Курс нацыянальнай валюты застаецца стабільным, знізіўся ўзровень спаду вытворчасці.

Але ў цэлым для сучаснай сітуацыі характэрна наяўнасць вострых праблем. Сярод іх — працяг плацежнага крызісу, унутраны дэфіцыт кансалідаванага бюджэту, завышаны ўзровень бартэру ў эканоміцы, нізкая актыўнасць айчынных і замежных інвестараў, хібы ў падатковай сістэме, а таксама неадэкватна высокі ўзровень ценявога сектара, які складае ад 40 да 50 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту.

Несумненна, што, падводзячы вынікі пяцігадовага развіцця, Украіна зробіць патрабавальны аналіз зместу сваіх знешнеэканамічных сувязей, у тым ліку ўкраінска-беларускіх адносінаў. Яны ў цэлым развіваюцца як бы нармальна. Аднак ёсць і пачуццё пэўнай незадаволенасці. Канструктыўны пачатак тут закладзены. Рэальную ролю адыгралі пры гэтым сустрэчы прэзідэнтаў нашых краін, афіцыйны візіт кіраўніка ўкраінскай дзяржавы Леаніда Кучмы на Беларусь, візіт прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра на Украіну. Падпісаннем Дагавора аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве, каля 50 міждзяржаўных пагадненняў зафіксаваны факт стварэння важкай нарматыўна-прававой базы ўкраінска-беларускіх адносінаў.

У гэтым кантэксце асабліва вылучыў бы пагадненні аб гандлёва-эканамічных супрацоўніцтве, аб арганізацыі разлікаў паміж Нацыянальнымі банкамі, у галіне транспарту, сувязі, ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва, прыгранічных, мытных пытаннях.

Не варта забываць, што сярод краін СНД Беларусь трывала займае другое месца пасля Расіі ў гандлёва-эканамічным абароце Украіны. У мінулым годзе ён склаў звыш 1,2 млрд. долараў. Украіна паставіла на Беларусь звыш 150 тыс. тон цукру, каля 25 тыс. тон алею, вялікую колькасць пракату чорных металаў, вугалю, цэменту; у сваю чаргу атрымала з Беларусі тысячы тон дызельнага паліва, угнаенняў, а таксама лесаматэрыялы, трактары і інш. Пакладзены пачатак супрацоўніцтву ў ваеннай сферы.

Станоўчы зрух адзначыўся ў рэгіянальным супрацоўніцтве. Адноўлены сувязі і напрацаваны пэўны вопыт супрацоўніцтва ў новых умовах паміж Чарнігаўскай і Гомельскай, Валынскай і Брэсцкай, Кіеўскай і Мінскай абласцямі. Пакладзены пачатак ажыццяўленню рэгіянальных праграм, перш за ўсё маецца на ўвазе «Еўрарэгіён Буг», у якой удзельнічаюць сумежныя рэгіёны Украіны, Польшчы, Беларусі. Падключэнне да гэтай праграмы Брэсцкай вобласці з яе эканамічным патэнцыялам і геаграфічным размяшчэннем можа стварыць своеасаблівы феномен — правобраз новай эфектыўнай формы супрацоўніцтва.

Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь лічыць, што нарошчванню выніковасці эканамічнага супрацоўніцтва магло б садзейнічаць паскарэнне прыняцця прымальнага варыянта пагаднення аб свабодным гандлі, пакета дакументаў па уніфікацыі і гарманізацыі заканадаўства і нарматыўнай базы дзвюх краін. І, безумоўна, самым рашучым чынам трэба зацвердзіць цывілізаваны парадак у прыгранічна-мытных структурах, стварыць там адпаведны духу адносінаў паміж нашымі народамі прапускны рэжым.

Усё гэта пашырыць магчымасці не толькі для збліжэння палітычнай арыентацыі нашых краін, але і дынамічнага нарошчвання эканамічнага супрацоўніцтва, і перш за ўсё Расіі, Украіны і Беларусі, што стратэгічна важна, палітычна прыярытэтна, жыццёва неабходна. Я ўпэўнены, самой гісторыяй прадвызначана ўкраінска-беларускім адносінам быць узорам добрасуседства і дружбы для іншых краін. Шчаслівы, што маю гонар непасрэдна ўдзельнічаць у гэтай высакароднай працы.

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол**
**у Рэспубліцы Беларусь**
**Уладзімір ЖАЛІБА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● ПРЭЗІДЭНТ НЕ ЗАДАВОЛЕНЫ ПРАЦАЙ ЛЕБЕДЗЯ**

Дарадца прэзідэнта Расіі Ельцына па нацыянальнай бяспецы Аляксандр Лебедзь сустрэўся з прэзідэнтам, каб абмеркаваць новыя дамоўленасці пра спыненне баявых дзеянняў у Чачні. У чацвер Ельцын зазначыў, што ён няпоўнасцю задаволены працай Лебедзя ў гэтым напрамку. Паводле дамоўленасці, якая пачала дзейнічаць зусім нядаўна, за чачэнцамі захоўваецца права на частковы кантроль Грознага. Карэспандэнт Бі-бі-сі ў Маскве паведамляе, што такія ўмовы не задавальняюць расійскіх вайскоўцаў. Лебедзь таксама вернецца ў Маскву праз дзень, каб дамовіцца пра палітычны статус Чачні. Пасля 20 месяцаў жорсткай вайны Масква, магчыма, прызнае незалежнасць Чачні.

**● ІРАК ХАВАЕ СВАЮ ЗБРОЮ АД КАМІСІІ ААН**

Кіраўнік камісіі ААН па раззбраенню Ірака зноў заявіў, што Ірак перашкаджае агляду сваіх ваенных аб'ектаў. Ірак спрабуе схаваць свае ўзбраенні, перасоўваючы іх па тэрыторыі краіны. Кіраўнік камісіі збіраецца прыбыць у Багдад і правесці там перамовы з намеснікам прэм'ер-міністра Ірака Азізам. Паводле дамовы, што была прынята пасля заканчэння вайны ў Персідскім заліве, у 1991 годзе Ірак павінен быў знішчыць сваю ядзерную хімічную і біялагічную зброю.

**● ФРАНЦЫЯ ЗМАГАЕЦЦА З ІМІГРАНТАМІ**

Французская паліцыя ажыццявіла штурм царкоўнага будынка ў Парыжы, дзе ўжо на працягу сямі тыдняў знаходзілася каля 300 нелегальных эмігрантаў з Афрыкі, якія хаваліся ад дэпартацыі. Паліцыя ўжыла газ і гумавыя кулі, каб выгнаць афрыканцаў з будынка. Потым іх пагрузілі ў аўтафургоны і вывезлі ў невядомым накірунку. Таксама былі арыштаваны і іх прыхільнікі. Вышэйшы суд Францыі прыняў закон аб тым, што нелегальныя эмігранты, большасць з якіх паходжаннем з Малі, не маюць права знаходзіцца на тэрыторыі Францыі. Урад разгледзіць справу кожнага з іх, і тыя, хто не мае грунтоўных падстаў для знаходжання ў Францыі, будуць вымушаны пакінуць краіну.

**● «ТЫТАНІК» ЗБІРАЮЦЦА ПАДНІМАЦЬ**

З Нью-Йорка на месца катастрофы лайнера «Тытанік» накіравалася вялікае даследнае судна. Каманда правядзе работы па вывучэнню рэшткаў карабля, што затануў каля 80 гадоў таму і пазбавіў жыцця каля 1500 чалавек. Праз тыдзень яны паспрабуюць падняць з вады адну з частак яго корпуса. Навукоўцы, якія займаюцца гэтай праблемай, лічаць гэту акцыю выключна камерцыйнай, аднак адзіны пасажыр «Тытаніка», які застаўся ў жывых — жанчына 90-гадовага ўзросту, падтрымлівае гэту экспедыцыю і будзе браць у ёй удзел у якасці ганаровага госця.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё 101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Бізнес хірургаў- касметолагаў перажывае зараз у Азіі сапраўдны бум. Салоны прыгажосці ў Шанхаі, Маніле, Токіо ледзь спраўляюцца з наплывам жадаючых палепшыць сваю знешнасць. 400—500 долараў каштуе аперацыя па змяненню формы носа. Праўда, амаль тыдзень ён будзе такі, як быццам быў удараны прафесіянальным баксёрам. Прыгажосць патрабуе ахвяр... і грошай. За больш буйную суму можна змяніць разрэз вачэй, нарасціць сіліконам бюст. Ідэальны твар, на думку тайландак, павінен выглядаць так, як у жанчын каўказскага тыпу.

***ІТАР-ТАСС.***

Вярнуўшыся з адпачынку, прэзідэнт ЗША Клінтан з галавой акунуўся ў работу. Разам з віцэ-прэзідэнтам ён адправіўся ў штат Тэнесі, дзе заняўся рамонтам згарэлай баптысцкай царквы. Удзел вышэйшых асоб краіны ў гэтых работах павінен прадэманстраваць клопат Белага дома ў сувязі выпадкамі падпалу храмаў у негрыцянскіх кварталах, якія пачасціліся.

***Асашыэйтэд Прэс.***

Падаваў вялікія надзеі Фрэдэрык Дэвідсан, 36-гадовы студэнт універсітэта штата Каліфорнія ў Сан-Дыега, які знайшоў свой «нестандартны» довад. Пры абмеркаванні яго навукавай працы ён так разгарачыўся, што ў якасці «апошняга аргумента» выхапіў пісталет і забіў трох прафесараў-апанентаў.

***«Труд».***

## ШТО ЧЫТАЮЦЬ ПАЛЯКІ

На 2,4 працэнта менш, чым за першае паўгоддзе 1995 года, прададзена кніжак у Польшчы. Пра гэта паведаміла Галоўнае статыстычнае ўпраўленне. У той жа час усіх іншых тавараў прададзена больш. Як паведамляюць сацыёлагі, 49 працэнтаў палякаў і 41 працэнт полек прызналіся, што за апошні год не прачыталі ніводнай кніжкі. Сацыёлагі робяць выснову, што людзі купляюць «хлеб духоўны» ў залежнасці ад адукацыі і заможнасці. Але нават тыя, хто мае грошы, не спяшаецца аддаваць іх на кніжкі.

***Па матэрыялах польскага друку.***

## Анталогія беларускай песні

# КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ

**Жыццё тым і цікавае, тым і прывабнае, што асвятляецца каханнем. Яно пабуджае закаханых адарвацца ад штодзённых спраў, прайсці праз усе перашкоды, каб хутчэй убачыць знаёмую ўсмешку, агністы позірк, адчуць цяпло мілых рук...**

Напэўна, ні ў адной песні Генадзя Бураўкіна не створаны такі рамантычны вобраз закаханага, як у песні «Конь незацугляны». Узнёслым пададзены ён у «Першым спатканні» (музыка Васіля Раінчыка), летуценным — у «Зачараванай маёй» (музыка Ігара Лучанка), нерашучым — у «Незнаёмцы» (музыка Юрыя Семянякі). А тут паўстае казачна-загадкавым, падобным на фальклорнага асілка, які вытрымае ўсе выпрабаванні, што выпалі на яго долю, — і дасягне мэты. Надзейны памочнік яму ў гэтым — конь, вольны, незацугляны. Ён з'яўляецца ў песні нібы сімвалам вернасці і незалежнасці.




Для таго, каб кахаць і застацца вольным, патрабуецца вялікая мудрасць і культура пачуццяў. Якраз у выкананні «Песняроў», у рэпертуары быў гэты вакальны твор, передавалася драматычная супярэчнасць у развіцці пачуццяў — пастаянная цяга да каханай і неўтаймоўнае імкненне застацца свабодным.

Інтанацыйна «Конь незацугляны» пераклікаецца з некаторымі іншымі песнямі, у якіх апяваецца каханне, услаўляецца надзейнасць каня, асабліва ў агульнай для ўсходніх славян песні «Ой, пры лузе, пры лужку». Аднак напісаная на беларускай глебе, яна мае адметныя рытм, лірызм, своеасаблівую эмацыянальную насычанасць.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

## КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ

*Верш Генадзя БУРАЎКІНА Музыка Эдуарда ХАНКА*

Там, дзе вечар на зямлю
Сыпле зор маністы,
Я злаўлю цябе, злаўлю,
Конь мой наравісты.
Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны

Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны.

Азірнуся ля сяла,
Падлячу да ганка,
Дзе чаромха расцвіла,
Дзе жыве каханка.

Да расплеценай касы
І да губ румяных
Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны.

Капытом каля вакон
Сон разбіць дазволю

І пасля цябе, мой конь,
Адпушчу на волю.
Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны
Ты ляці, мой конь, ляці,
Конь незацугляны.



# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

**КАЗЯРОГУ** трэба ва ўсім спадзявацца на важную сустрэчу з нейкай асобай, ад якой залежаць вашы будучыя поспехі. Прыйдзецца набраць у рот вады і не дзяліцца ні з кім сваімі планамі ў сферы бізнесу. А вось надзеямі на сямейнае жыццё цалкам можна будзе падзяліцца з тым, на кім спынілі свой выбар.

**ВАДАЛЕЙ** няхай рыхтуецца да збору багатага фінансавага ўраджаю, які прынясуць зробленыя раней інвестыцыі ў нерухомасць. Дывідэнды скарыстайце неадкладна, паколькі зоркі на гэтым тыдні абяцаюць вам толькі кароткатэрміновыя поспехі. Гэта датычыцца і сферы асабістага жыцця, тут вам трэба пашукаць узаемаразумення ў Авенаў, Ракаў і Стральцоў.

**РЫБАМ** можна параіць адкрыць уласную справу. Асабліва зоркі раяць гэта прадстаўніцам цудоўнага полу, у таленты якіх планеты вераць на гэтым тыдні. Ім не забараняюцца і лёгкі флірт з ужо жанатымі мужчынамі, і спробы канчаткова ўзяць у палон халасцякоў.

**АВЕНАМ** прыйдзецца не губляць пільнасці і не даваць асабістаму браць верх над грамадскім. Паклапаціцеся аб сваёй кар'еры, дзеля росквіту якой дзейнічайце больш смела і настойліва. Магчымы вялікія расходы. Але не хвалюйцеся — у самы бліжэйшы час яны не толькі акупяцца, але і прынясуць вам добры даход.

**ЦЯЛЬЦАМ** неабходна памятаць, што толькі вялізнымі намаганнямі можна папоўніць страты, якія вы панеслі ў апошні час. Набярыцеся смеласці, самаарганізуйцеся — і ў бой. Адказнасць за пачатую справу павінна вызначаць вашы ўчынкі і крокі, у тым ліку і ў адносінах да родных.

**БЛІЗНЯТЫ** будуць заняты фінансавай дзейнасцю, якая абяцае багатыя дывідэнды, але не ў самы бліжайшы час, а толькі ў аглядным будучым. А пакуль вам трэба спадзявацца на падтрымку верных сяброў, якія дапамогуць і парадай, і справай. Магчыма, у вас з'явіцца перспектыва змяніць месца працы ці атрымаць павышэнне па службе і адолець чарговую вышыню ў прафесіянальным росце.

**РАК** нарэшце закончыць руцінную працу і ўздыхне з палёгкай. Зноў зоркі прадракаюць ваеннаслужачым з ліку Ракаў перавод на новае месца службы, магчыма, бліжэй да паўночнага ззяння. У ваш дом могуць нечакана-негадана прыйсці госці. Зносіны з імі адаб'юцца на вашым бюджэце, у сувязі з чым вельмі спачуваем.

**ІЛЬВАМ** рэкамендуецца не губляць смеласці і прысвяціць сябе важным справам, у тым ліку і фінансавым. Магчыма, вас запросяць на якую-небудзь урачыстасць, і таму будзьце пастаянна ў форме і гатоўнасці. Народным, заслужаным і проста таленавітым артыстам «свеціць» запрашэнне на галоўныя ролі. Астатнім — перспектыва выгаднай работы, якая абяцае добрыя грошы.

**ДЗЕВАМ** можна чакаць падзякі ад начальства. Магчымы зносіны з судовымі і міліцэйскімі органамі, а вось па якой менавіта прычыне, зоркі сказаць не могуць. Тым, хто прадае нерухомасць, трэба прымаць любыя прапановы, пакуль яны ёсць наогул.

**ШАЛІ** накіруюцца ў ваяж за мяжу, дзе змогуць і крыху падзарабіць. Ва ўсякім разе, такія прапановы будуць, і лепш ад іх не адмахвацца. А вось бацькам не варта на тыдні адпраўляць сваіх дзяцей на вучобу за мяжу, яны пакуль да гэтага не гатовы. Ім лепш апрабаваць здольнасці на роднай глебе, дзе іх чакае поспех.

**СКАРПІЁНЫ** падвядуць баланс месяца на бравурнай ноце. Поспехі ў жыцці і справах відавочныя, і гэта радуе. Але не цешцеся, а лепш рыхтуйцеся да будучага, якое вам трэба сустрэць у поўным узбраенні. Выхад на шырокі шлях і дэбют у вялікіх пачынаннях запатрабуе многага, у тым ліку і грошай.

**СТРАЛЬЦЫ** змогуць падлічыць даходы толькі пасля заканчэння вялікай справы. А ёй, між тым, будуць ставіць палкі ў колы і ствараць перашкоды, якія вам прыйдзецца пераадольваць. Памятайце, што шлях да зорак праходзіць праз церні, прычым не ў адных толькі астранаўтаў.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР-ТАСС.**
Дэлі.

## *Паэтычны радок*



**Алег Салтук — аўтар некалькіх кніжак вершаў і паэм, рэгулярна друкуецца ў беларускіх перыядычных выданнях. Ён з'яўляецца сакратаром Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Заўтра Алегу Уладзіміравічу спаўняецца 50 гадоў.**

### ЧАЙКІ Ў ГОРАДЗЕ

Чайкі ў горадзе.
Што за дзіва —
Тут Дзвіна спрадвеку цячэ.
Над зялёным яе разлівам
Сінь нябёс — не хапае вачэй.

Чайкі ў горадзе,
Вербы ў коціках.
Без канца і без краю вясна.
Сонца ў вечнасць у небе коціцца,
Цеплыню пакідаючы нам.

Чайкі ў горадзе,
Вокны ў золаце.
Ап'яніў красавік без віна.
Учарашнія сталі Золушкі
Каралеўнамі, як адна.

Чайкі ў горадзе
З крыкам кружацца.
Воля вольная зараз дзятве.
Валасы, нібы з лёгкага кужалю
Ў майго бацькі на галаве.
Белы попел на папяросцы...
Чайкі ў горадзе.
Бацька ў вёсцы.

### ДОМА

Ні ў першы, ні ў апошні раз
Гляджу, маўчу і сам святлею,
Як разгараецца зара
І распускаюцца лілеі.

Як белабрысы маладзік
На небе яшчэ больш бялее,
Як у суседак-маладзіц
Дымкі над комінамі спеюць.

Як певень хрыпне на шастку —
Праспаў і сонца, і хахлатак.
Як не сядзіцца ўжо шпаку,
Бо лётаць вучыць шпачанятак.

Я гэта ўсё ў сабе нашу.
Тут маму ўсё напамінае...
Зара гарыць над небакраем
І апякае мне душу.

## *СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

### КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 5. Духавы музычны інструмент. 6. Раённы цэнтр у Магілёўскай вобласці. 9. Першая вучоная ступень. 10. Рахунак з вопісам адпраўленага тавару. 14. Карункі з кручаных нітак. 15. Магчымая частка выніку арыфметычнага дзялення. 16. Тумба на караблі. 19. Кішэнная торбачка для грошай. 20. Аўтар слоў песні «Люблю цябе, Белая Русь». 21. Грашовая сума, якая спаганяецца дзяржавай-пераможцай з пераможанай дзяржавы. 27. Палявая кветка. 29. Выдатны дзеяч-спецыяліст. 32. Ліст паперы. 33. Латышская эстрадная спявачка. 34. Буйная драпежная яшчарка. 37. Каланіст, які самавольна займаў свабодны, неапрацаваны ўчастак зямлі ў перыяд пачатковай каланізацыі. 38. Невялікі паўзун з доўгім хвастом і прадаўгаватым целам. 39. Мінеральная фарба розных колераў. 40. Старадаўні вясельны абрад.

**Па вертыкалях:** 1. Марское падарожжа. 2. Ігумення каталіцкага жаночага манастыра. 3. Зручны момант. 4. Памяшканне на судне. 7. Вяроўка для нацягвання пярэдняга ветразя судна. 8. Перакананне, пункт погляду. 11. Вялікі клавішны музычны інструмент. 12. Калекцыяніраванне значкоў, нагрудных знакаў і г. д. 13. Парусное судна. 17. Рускі першадрукар. 18. Соус для кансервавання. 22. Марская палярная птушка сямейства чысцікаў. 23. Балет С. Пракоф'ева. 25. Куслівая асенняя муха. 26. Рыбалоўная снасць. 30. Зямельнае арэнднае ўладанне. 31. Каталіцкі манастыр. 35. Заблытаная судовая справа. 36. Найбольшае возера на Беларусі.

**Па дугах:** 24. Беларускі паэт. 28. Скульптурны твор.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
Лагойскі раён.



### ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (17 жніўня).** ***Па гарызанталях:*** 7. Абаранак. 9. Маладзік. 10. Гляк. 11. Руля. 12. Каласавік. 17. Акравак. 19. Шаленец. 20. Радца. 21. Гірса. 22. Рогат. 24. Скула. 27. Засаўка. 29. Капліца. 31. Хістскасць. 34. Газа. 36. Гмах. 37. Баравіна. 38. Адносіны. ***Па вертыкалях:*** 1. Абалонка. 2. Грак. 3. Гнілата. 4. Пляміна. 5. Здор. 6. Ліслівец. 8. Кара. 9. Мяла. 13. Спад. 15. Камінар. 16. Немаўля. 18. Краса. 19. Шарак. 23. Ваўкалак. 25. Улік. 26. Сцяканне. 28. Клічнік. 30. Адценне. 32. Туга. 33. Арфа. 35. Апад. 36. Густ.

**Чайнворд-галаваломка (17 жніўня).** 1. Тарас. 2. «Свінапас». 3. Сабаленка. 4. Асташонак. 5. Кулакоўскі. 6. «Іслач». 7. «Чыгунка». 8. Акт. 9. Трус. 10. Стапа. 11. «Асілак». 12. Кантэкст. 13. Тып. 14. «Парог». 15. Ганна. 16. Арочка. 17. «Аманал». 18. Лірыка. 19. «Альфа». 20. Анапест. 21. Туляга. 22. «Амок». 23. Кропля. 24. Ядвіся. 25. Яўхім. 26. Мальвіна. 27. «Алімпіяда». 28. «Астап».

## *АДПАЧЫНАК*

### ЗЛЁТ ЮНЫХ СЯБРОЎ ЮНЕСКО

**Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКО на чале з генеральным сакратаром А. Каранкевічам упершыню арганізавала летні 2-тыднёвы лагер беларускіх клубаў ЮНЕСКО з Мінска, Гродна, Брэста, Віцебска, Маладзечна, Оршы, Жодзіна, вёскі Сноў, пасёлка Нарач. Кожная дэлегацыя складалася з шасці навучэнцаў — юных актывістаў клуба ва ўзросце 14—16 гадоў і кіраўніка.**

Навучальна-адукацыйны блок уключаў мерапрыемствы па напрамках дзейнасці клубаў ЮНЕСКО — экалогія, выхаванне ў духу міру (канфліктлогіі), правы чалавека і дзіцяці, нацыянальная гісторыя і культура.

Прайшлі алімпіяды школьнікаў па розных відах спорту. Незабыўнымі стануць, бадай, усе культурныя мерапрыемствы. Гэта вечар «Візітка атрада», вечар беларускіх легенд, парад краін, вечар «Стартанейджэр», на якім нават важатыя праявілі сябе, вечар «Конкурс відэакліпаў», дзень імянінніка, кірмаш, свята Нептуна і інш.

Але ўсё калі-небудзь заканчваецца. Застаецца толькі падзякаваць арганізатарам гэтага лагера беларускіх клубаў ЮНЕСКО на чале з Аляксандрам Каранкевічам. І ўспамінаць гэтыя дні як вельмі светлую старонку жыцця кожнага з нас — удзельнікаў гэтага цудоўнага мерапрыемства.

**І. ГРЫГАРЦЭВІЧ, кіраўнік экалагічнага клуба Нарачскай СШ № 2, Мядзельскі раён.**

## Віншаванні

*Горача, сардэчна віншую з днём нараджэння сястру БАРАДЗІНУ Галіну Аляксееўну. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у выхаванні маленькага сына, а таксама радасці і дабрабыту, каб здзейсніліся ўсе твае мары.*

**Брат з Гомеля.**

*Віншуем з днём нараджэння дарагую сястру Ніну Васільеўну КАСТЭНКА. Жадаем здароўя, шчасця.*

**Сям'я ВАЙТОВІЧАЎ з Клецкага раёна.**

*Віншуем з днём нараджэння Веру Васільеўну ДУДЗІЧ з в. Мацевічы Лідскага раёна, а таксама Алену і Святлану Дудзіч з г/п Воранава.*

**Віктар, Аксана.**

*Віншуем з днём нараджэння жонку, матулю — ВЕЙКШНАР Святлану з в. Гожа Гродзенскага раёна. Жадаем здароўя, шчасця.*

**Муж, сыны.**

Згубленыя круглую пячатку і штамп на імя Папова С. В. (пасв. № 2972, выдадзена 18.03.93 г. Савецкім РВК г. Мінска) лічыць несапраўднымі.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4787.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12